# НАША НІВА

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у панядзелкі. №28 (185) 10 ЛІПЕНЯ 2000 г.


З усёй краіны

## Нашэсьце пацукоў

Сапраўднае пацучынае нашэсьце пагражае Баранавічам. Гэтыя стварэньні ўсё часьцей залазяць у кватэры жыхароў. Замест патрэбных 36 сьмецьцевозаў у Баранавічах маюцца толькі 18, а працуюць штодня толькі 2—3. Сьмецьце і бруд па пары дзён гніе ў кантэйнэрах каля дамоў, адсюль і пацукі.

Руслан Равяка, Баранавічы

## Кісяля арыштавалі

У ноч на 6 ліпеня ў менскім тралейбусным дэпо № 5 затрымалі актывіста Маладога фронту з Горадні Валерку Кісяля. Разам зь некалькімі маладымі людзьмі, якім удалося зьбегчы, ён з дапамогай трафарэту наносіў на тралейбусы надпісы «Жыве вольная Беларусь!» Хлопца зьвінавацілі ў дробным хуліганстве і пакаралі штрафам у памеры 2 тыс. рублёў. Хлопец прыехаў у Менск у школку і захацеў паказаць менчукам, як Горадня ўмее змагацца.

Паводле інфармацыі БАРЦ

## У Наваполацку скралі макарону

У Наваполацкі гараддзел міліцыі зьвярнуўся старшыня касьцёльнай парафіяльнай рады: з драўлянай прыбудовы ў яго ўкралі скрыні з гуманітарнай дапамогай — вітамінамі і прадуктамі харчаваньня. Нехта проста аддзёр дошкі ад сьцяны і залез у сярэдзіну.

Андрэй Аляксандраў, Наваполацак

## Без заробку працаваць ня хочуць

Рабочыя завода «Магілёўтрансмаш» правялі стыхійны страйк. Гэта быў заробкавы страйк. А лепей сказаць, беззаробкавы. Амаль паўдня людзі на заводзе не пачыналі працы. Калі незадаволены і шматгалосны натоўп дасягнуў амаль тысячы чалавек, сходператварыўся ў мітынг, дзе людзі патрабавалі аднаго – зарплаты. Да працоўных павыходзілі ўсе намесьнікі дырэктара, каб заклікаць «спакойна працаваць, а дырэкцыя ўсё выражаць». Ды толькі людзі разыходзіцца не згаджаліся. У канцы дня, спужанае кіраўніцтва ўсё ж здолела знайсьці грошы, каб расплаціцца.

Сымон Глазштэйн

## Не змагайся са Свабоднымі прафсаюзамі

У Магілёве судзяць колішняга дырэктара, якога зьняў з працы... Свабодны прафсаюз. Цэнтральны раённы суд Магілёва распачаў працэс супраць былога дырэктара завода «Зеніт» Васіля Асіенкі. Яго абвінавачваюць у крадзяжах і злоўжываньні службовым становішчам. Але праславіўся той дырэктар сваім упартым супрацьстаяньнем з Свабоднымі прафсаюзамі. Працоўная салідарнасьць і мужнасьць зрабілі справу.

Сымон Глазштэйн

# АПАЗЫЦЫЯ ВЫЙГРАЛА Ў ЛУКАШЭНКІ БЭРЛІН



Здымак IREX-PROMedia

*Учора ў Віленскім аэрапорце па дарозе з Бэрліну ў Менск лідэр БНФ Вінцук Вячорка даў інтэрвію нашай газэце.*

— *Раней беларускія незалежніцкія палітыкі ня часта езьдзілі да палітыкаў Нямеччыны, і вось цяпер...*

— Сапраўды. Дагэтуль так складалася, што менавіта ў ЗША мы знаходзілі больш разуменьня нашых клопатаў і былі часьцей туды запрашаныя. Зрэшты, і рэакцыя амэрыканскага боку на беларускія падзеі была дастаткова выразна сфармуляваная. Вось чаму было важна, нарэшце, даважна заняцца эўрапейскай палітыкай.

Ініцыятыва візыту належала менскай групе АБСЭ. Запрошаныя мы былі фэдэральным міністэрствам замежных справаў Нямеччыны. І была пэўная перадгісторыя. Рэч у тым, што напачатку меркавалася сфармаваць агульную дэлегацыю з удзелам апазыцыі і таварышаў Посахава, Красуцкага й Якубовіча. Таму мне давялося зрабіць пэўныя захады, напісаць ліст, пад якім паставілі свае подпісы мае калегі, аб фармаваньні дзьвюх асобных дэлегацыяў. Натуральна, нашай мэтай у Бэрліне быў клопат пра незалежную Беларускую дзяржаву й пра нармальную людзкую пэрспэктыву для нашых людзей.

Сустрэчы былі на высокім узроўні. Былы фэдэральны міністар Карл Дытэр Шпрангер, гэта дэпутат ад ХДС і намесьнік старшыні замежнапалітычнага камітэту Бундэстагу, шэраг іншых дэпутатаў ад усіх асноўных фракцыяў сустракаліся з намі. У тым ліку Вольфганг Бэрэнт, гэта галава нямецкай дэлегацыі на парлямэнцкай асамблеі Рады Эўропы. А ў міністэрстве замежных справаў нас вітаў і меў з намі перамовы спадар Клаўс Шарыот, палітычны дырэктар Фэдэральнага міністэрства.

Працяг на старонцы 3

# ЧАЛАВЕК — СКУЛЬПТАР

## Гутарка з айцом Янам Шуткевічам



Здымак Анатоля Клешчука

Памятаю адну калядную ноч. Са сваімі роднымі й сябрамі мы пайшлі ў беларускі касьцёл Сьвятога Барталямэя, што ў Вільні, на Зарэччы. Гэта была першая калядная імша ў ім, першая пасьля 1946 году, калі ў апошні раз тут служыў ксёндз Адам Станкевіч — перад сваёй высылкаю ў Расею, адкуль, з ГУЛАГу, ён ужо не вярнуўся. З таго часу касьцёл быў замкнуты й закінуты. І вось у Вільні зноў беларускія Каляды — у сваім касьцёле...

Тускна сьвяціла пара лямпак без абажураў, яны зьвісалі проста на дратах. Аўтар, вялікі кавалах дыхты, зацягнуты драпіроўкамі, асьвятляла колькі сьвечак. Падлога праламаная, закіданая старым лінолеўмам. Столі няма наогул. Сьцены ў рыштаваньнях. Халодна й няўтульна. Купка людзей шчыльна пастала ля самай катэдры, зь якой прамаўляў ксёндз, айцец Ян. Ён вітаў тых, хто прыйшоў на беларускую Імшу менавіта сюды. Бо й Хрыстос нарадзіўся ў бедным убогім хляве, а не ў палацы. І першыя прыйшлі да яго простыя пастухі. Яшчэ ксёндз згадваў высакародны ўчынак арцбіскупа Парыжа, які, едучы ў катэдру на сьвяточную калядную літургію, пабачыў мноства агнёў пад парыскімі мастамі. Ён прыпыніўся й пайшоў пад мост, дзе сотні бедакоў на свой лад рыхтаваліся да Божага Нараджэньня. І застаўся там зь імі. У жабракоў было неверагоднае захапленьне, пакуль паліцыя зьбівалася з ног, шукаючы прымаса Францыі... А яшчэ айцец Ян згадаў бядотную Беларусь, пакінутую й разгубленую, у якой не стае волі, каб стаць на ногі, і гонару, каб быць сабою...

А неўзабаве адбылося і ўрачыстае адкрыцьцё касьцёлу Сьвятога Барталямэя. Было багата народу, біскуп, арцыбіскуп. Шматлікія і ўрачыстыя вітаньні беларусам, што атрымалі, нарэшце, сваю сьвятыню, праз паўстагодзьдзя чаканьня... Касьцёл меў ужо зусім іншы выгляд. Тут усё было хораша й чыста. Сьціпла, але густоўна. Зьзяла бельлю навюткая столь, пераліваліся толькі пакладзеная падлога. Айцец Ян Шуткевіч не хаваў свайго задавальненьня. З аптымізмам заклікаў беларусаў маліцца ў роднай мове...

Айцец Ян добра вядомы ў Беларусі. Аднаго разу, зусім выпадкова, заблукаўшы ў беларускіх дарогах, я завітаў у маленькую лясную вёсачку Ігнацішкі, пад Лынтупамі.

Працяг на старонцы 6

# ТРАПНАЕ СЛОВА «ДРЭМАКІ»

Доўга шукаў нагоды, каб выкарыстаць гэтае файнае дыялектнае слова, якое аднойчы пачуў ад палешука з Давыд-Гарадку. Так ён у гаворцы назваў сваіх землякоў, якім увесь час спрабуе давесьці, што цяперашняя ўлада іх папросту дурыць, а землякі як землякі — усё дагледаюць ды была, шчыруюць на полі ды маўчаць.

Потым падумаў — а што тут шукаць, нагодаў у маім горадзе, на маёй зямлі — што ў дурня махоркі.

Абласныя ўлады цяпер пастанавілі, каб калгаснае кіраўніцтва штодня кантралявала колькасьць сена, якое калгаснікі ў вольны ад працы ў калгасе час нарыхтоўваюць дзеля патрэбаў уласнай гаспадаркі. Здавалася б, нашто ўладам спатрэбілася лічыць прыватнае сена беднага калгасьніка? «Едзе, едзе прадразьвёрстка, ужо вёска блізка....» Ніхто ў вёсках нават не зьвярнуў на гэта ўвагі — вельмі ўжо прызвычаіліся да ўсялякіх кантроляў. Дрэмакі? Ну дык гэта ж калгаснікі, скажаце, толькі БТ і глядзяць, а вось бы, да прыкладу, бізнэсмэнаў узяць. Калі ласка.

Ад пачатку ліпеня для прадпрымальнікаў аплата за месца на цэнтральным кірмашы, дзе яны штодня ставяць свае намёты, падвысілася адразу ўдвая — цяпер нешта каля 20 тысячаў штомесяц. Коштам бізнэсмэнаў, якія й так даюць дзяржаве нямала грошай, вырашылі яшчэ рэканструкцыю кірмашу зрабіць. Сярэдняя кляса абурацца? Не. Дрэмакі? Ну, ізноў скажаце, дык няшмат сярод іх граматных, калі б інтэлігенцыю ўзяць...

Сустрэў аднаклясьніцу, якая цяпер настаўнічае ў адной з гарадзкіх школаў. Кажа: заробак нават на дзьве стаўкі мізэрны ды яшчэ і выплочваюць несваечасова. Пытаюся: а бясплатна сена касіць на калгасныя палеткі з калегамі ўсё адно езьдзіце (кожны настаўнік мусіць нарыхтаваць сена 200 кіляў)? Адказвае: не, што ты, я адкупілася — 5 тысячаў заплаціла (ледзь не траціна заробку), каб адчапіліся! Ад чаго адкупілася і ў каго? Хіба ад сваіх непасрэдных абавязкаў у дзяржавы, якая проста зьдзекуецца зь яе? Думаеце, шмат хто зь «перадавой інтэлігенцыі» — настаўнікаў — абурыцца? Не — косяць альбо плацяць. Дрэмакі? Дрэмакі.

Аляксей Дзікавіцкі, Пінск

# У ЦІМКАВІЧАХ ЛЕНІНА ПАМЫЛІ

Беспрэцэдэнтная гісторыя адбылася ў мястэчку Цімкавічы, што на Капыльшчыне. Там людзям не аддавалі заробку, пачынаючы з сакавіка. Дык нехта прыдумаў у пратэст скрасьці бюст Леніна, а потым скінуць у канаву. Рэч у тым, што ўсё гэта адбывалася перад 24 чэрвеня, калі мусілі сьвяткаваць дзень нараджэньня Кузьмы Чорнага. У мястэчка былі запрошаныя госьці зь Менску, а тут скандал — помнік скралі! Але скончылася ўсё ня так жудасна: Леніна знайшлі, усталявалі на старое месца, пафарбавалі, заробак аддалі за сакавік-красавік, добра адсьвяткавалі дзень нараджэньня Кузьмы Чоркага. Чалавека, як скраў помнік, не знайшлі. А жыхары Цімкавічаў ужо ведаюць — каб атрымаць грошы, трэба памыць Леніна ў канаве.

Сяржук Насевіч

Тыдзень нашага жыцьця

# У ізгоях

Зьнік апэратар ОРТ Зьміцер Завадзкі, які апошнімі часамі шмат працаваў у Расеі. Зусім малады, ён ужо спазнаў усе выгоды журналісцкай прафэсіі: сядзеў у турме за кампанію з Шараметам, здымаў у Чачэніі. Зьнікненьне ў галоўным аэрапорце краіны сярод белага дня — удвая таямнічае. Шарамет вінаваціць Лукашэнку, Замяталін — апазыцыю. Прыгадваецца, што ў час сваёй адсэдкі Завадзкі, былы асабісты апэратар Лукашэнкі, пайшоў на супрацоўніцтва з КГБ, за што яго спачатку ўшчуваў Шарамет.

Калі гэта пачатак прэзыдэнцкай кампаніі ў Беларусі, дык брудная ж кампанія намячаецца. Увогуле, цікава, што зьнікаюць у Беларусі тыя людзі — палітыкі, бізнэсмэны, цяпер во журналісты, што актыўна працавалі або ў Расеі, або з Расеяй.

Гэтае зьнікненьне ў любым разе зноў моцна псуе вобраз нашай краіны за мяжою. Для замежнікаў Беларусь — краіна без парадку, дзе зьнікаюць людзі, дзе плююць на правы чалавека, дзе лузаюць семкі на вуліцах і дзе можна спакойна пачувацца, толькі калі побач ёсьць міліцыянты (дый то не ўва ўсіх сытуацыях). Тыповая неадукаваная крымінальная калюмбія, карацей, дарма што з тысячагадовай традыцыяй хрысьціянства. Мы год за годам замацоўваем свой вобраз краіны-ізгоя, краіны наіўнасьці і нянавісьці.

Так і ўдзельнікаў міжнароднага Літэкспрэсу сустракалі на менскім вакзале: пад аховай двух дзясяткаў міліцыянтаў (каб багаж не раскралі і бамжы не абступілі), у прысутнасьці маладых людзей у касьцюмчыках пад гальштучкамі яўна не выпадковага выгляду і пад песьні псэўда-фольк-групы... «Ехаў казак за Дунай, сказаў, дзеўчына, бывай...» Нехта з гэтых балалаечніцаў нават пацягнуў пачівага выгляду патэнцыйных нобэлеўскіх ляўрэатаў танцаваць полечку...

Зьверскае, паталягічнае забойства францускай сям'і ў Марсэлі беларускім легіянэрам па мянушцы «Вайцюк» зь Ліды (сапраўднае ягонае прозьвішча так дакладна і не вядомае — ці то Васілеўскі, ці то Фускалік) таксама скалыхнула Эўропу.

Беларусь дыскрэдытуецца і адыёзнай постацыю «саюзнага сакратара» Паўла Барадзіна, ордэр на арышт якога выпісала швэйцарская пракуратура — хоць бяз гэтай гразі дык мы маглі б ужо абысьціся, каб менш лезьлі ў абдымкі маскоўскіх вараціла́ў.

У Віцебску ідзе «Славянскі базар» — павальная п'янка, замаскаваная пад прагляд посьпехаў расейскіх майстроў культуры і мастацтва ў насаджэньні расейскай эстэтыкі і густаў у братняй краіне. З Пугачовымі, Шаўчукамі, Чайфамі, Земфірамі і іншымі соладкагалосымі салаўямі юнага і зубастага расейскага «дзяржаўна-манапалістычнага капіталізму». А таксама прагляд дзеяздольнасьці нашай ідэалягічнай машыны, прадстаўнікі якой — у касьцюмчыках пад гальштучкамі — і Літэкспрэс сустракаюць, і для віцебскіх зажынкаў сцэнары пішуць, і вайцюкоў гадуюць, і раманы пішуць, і сена косяць, і калярадзкіх жукоў зьбіраюць, а ўсё ніяк не прымусяць Эўропу палюбіць Беларусь.

Такі вобраз нашае краіны падтрымлівае і Аляксандар Лукашэнка, што на сваім улюбёным «Славянскім базары» дазволіў сабе прылюдна ахаяць Біла Клінтана, бясьсільна помсьцячы за скасаваньне гандлёвых прэфэрэнцыяў Беларусі. Я, маўляў, дадам Клінтану да ягонай пэнсіі той мільён даляраў, які Беларусь страчвае на адмене спрыяльнага рэжыму гандлю.

Але ж ніякая дутая беларуская статыстыка пра паляпшэньне ўзроўню жыцьця й чалавечага разьвіцьця, якою падманваюцца міжнародныя арганізацыі, не падмане нас. Матэрыяльнае ўбоства спараджае духоўную беднасьць, а духоўная нікчэмнасьць кансэрвуе матэрыяльны заняпад. О, заклятае кола беларускай калёніі!

Такія людзі, як тэнісіст Уладзімер Ваўчкоў, што дайшоў да паўфіналу тэніснага Ўімблдонскага турніру, выклікаюць павагу й захапленьне: хлопец ня толькі сам зарабляе грошы сабе і сваёй бацькаўшчыне, а й робіць яе слаўнаю паміж народамі. Ягоны пройгрыш Піту Сампрасу не пазбаўляе нас надзеі, што 22-гадовы Ваўчкоў, сьпісаны з разьлікаў дзеля шматлікіх траўмаў, яшчэ даб'ецца перамогі, і не адной. Пагатоў што іншыя нашы суайчыньнікі-тэнісісты падтрымліваюць яго маральна. Натальля Зьверава не пакідае тэнісу і трымаецца ў першых дзясятках найлепшых тэнісістак сьвету, маладая Вольга Барабаншчыкава пачуваецца на кортах усё больш упэўнена, а зарабляе ўсё больш. На гэтым тыдні яна адкінула прапанову часопіса *Playboy* зьняцца для яго за 200 тысячаў даляраў. Вядома, што Барабаншчыкаву прызналі самай сэксуальнай тэнісісткай сьвету — на зьмену расейцы Курнікавай.

А ў лясах пануе адвечная краса. Там поўна ягадаў. Чарніцы, як вядома, дасьпяваюць у адзін час зь вішнямі. Пад Берасьцем яны ўжо пераходзяць. Пад Віцебскам жа сама пачынаюць. Дарэчы, вядро адборных вішняў у Берасьці на станцы Берасьце-Палескае, куды прыбываюць дызэлі з Украіны, каштуе 3,5 тысячы рублёў. Прыкладна столькі ж неўзабаве тутака будзе каштаваць і вядро абрыкосаў.

**Б.Т.**


Здымак IREX/PROMedia

З усёй краіны

## Вылучэньне дэлегатаў

Зьмітру Салаўёву, намесьніку старшыні Наваполацкай гарадзкой Рады БНФ, забаранілі правесьці сход-мітынг дзеля вылучэньні кандыдатаў на Ўсебеларускі зьезд. А вось Кальварыйская Рада Маладога Фронту вылучыла ў якасьці дэлегата саліста рок-гурта «Мроя» Лявона Вольскага. Лявон Вольскі паабяцаў выступіць ад імя маладой Беларусі пры прыняцьці Акту Незалежнасьці, а аматары N.R.M. атрымалі аўтографы на касэтах, фотакартках і майках.

**Б.Т.**

## Няшчаснае лісяня

Падлеткі ў вёсцы Рагачы, што пад Ляхавічамі, знайшлі каля хаты лісяня. Навязалі і пайшлі зь ім гуляць. Тое пакусала і падрапала сваіх катаў. Калі бацькі прыйшлі з працы, дык забілі лісяня і злупілі зь яго скуру. Старшыня калгасу, даведаўшыся пра гэта, загадаў выкапаць тушку і адправіў на аналіз у Берасьце. Тамака засьведчылі, што лісяня было хворае на шаленства. Цяпер усім, хто кантактаваў зь ім, робяць прышчэпкі.

**Руслан Равяка, Баранавічы**

## Гішпанцы добрыя

Ужо амаль тыдзень стаяць у Магілёве некалькі аўтобусаў з Гішпаніі. Яны б мусілі забраць мясцовых дзяцей, каб адправіцца зь імі за Пірэнэі. Але ня могуць гэтага зрабіць, бо гішпанская амбасада не дае візы. Дыпляматы тлумачаць адмову тым, што аздараўляльная паездка не зьяўляецца дабрачыннай, а візы ня могуць быць у такім выпадку бясплатнымі. Цяпер гэтымі пытаньнямі заняліся ўжо і ў самой Гішпаніі, бо гутарка ідзе пра дзясяткі беларускіх дзетак. Іх там чакаюць таксама дзясяткі сем'яў, дзе юныя беларусы і адпачнуць. Зь беларускага боку аздараўленьне дзяцей у Гішпаніі ладзіць дзяржава. І кожны раз кампанію суправаджаюць скандалы і нечаканыя неспадзяванкі: то дзяржава несвоечасова аплочвае вылет дзяцей з замежжа, то прымушае бацькоў уносіць свае сродкі. Кажуць, у гэты раз, «адно месца» каштавала каля 200 даляраў. Добра яшчэ, што гішпанскі бок добры і не разарваў адносінаў з намі.

**Сымон Глазштэйн**

## Пад дыктоўку бэнэфаўцаў

Месяц таму Баранавіцкая Рада БНФ зьвярнулася да выканкаму з патрабаваньнем заасфальтаваць пераход на вуліцы Тэльмана, адной з цэнтральных, што ля Палескага вакзалу. І вось на вуліцы зьявіліся грэйдэры.

**Руслан Равяка, Баранавічы**



З рэдакцыйнай пошты

### *НЯ СУД, А СУДЗІЛЬНЯ*

*І вось крышачку распавяду Вам аб дэмакратыі і дыялёгу палукашэнкаўску.*

*Пісаў да Вас аб здарэньні са мною праз асьвятленьне вуліц і іншае на вёсцы, чым нас зараз даймаюць вэртыкальшчыкі.*

*Адбыўся суд нада мною, і прыпаялі 22 тысячы. Справа — дробязь, ды толькі пустэльна якась пачуваесься. А таму, што людзі не разумеюць, ім няўцям, што прысуд вынесьлі ня мне, а ім, бо рабіў я ўсе 23 гады і сувязь, і радыё дый сьвятло ім. Хацеў, каб лепш было ім і каб хоць крыху ды лепшай была наша доля. Зараз наш люд трусіна-стравусінай натуры сьмяецца, ну, як хто. Вось так, атрымаў я і сьвятло, і дарогу, і ўсе выгоды. Ба, выгоды маюць цяперачкі ўсе, хто каля рэжымнага карыта тырчыць. Але старым няўцям, што іхны Лукашэнка абдзірае дагала іх дзяцей ды ўнукаў, а потым дасьць ім пацюпіні, і рады. Пенцаю нам дае, ды якую! Ну і пайшло, паехала.*

*Я мог бы і не даводзіць справы да суду, але вырашыў пашукаць праўды ў самым гуманным судзе ў сьвеце, як і сама ўлада зь яе Загадчыкам. О, гэта непараўнальна. Ня суд, а судзільня. Ды чорт зь ім, з тым судам і гэтым рэжымам. Яны гэта з нас хочуць парабіць рабоў, каб паменш елі ды пілі, каб рахманымі былі. А ўжо дэмакратыю мы Вам дамо. Вось так, даражэнькія.*

*Ды Бог Вам дапамажы. На гэтым усё, да пабачэньня.*

*А вось на выбары ўсё ж трэба ісьці, што б там ні было. Трэ імкнуцца хоць на кроплю ды вырваць і тут ад іх штосьці. А там час пакажа.*

**Пятро Філіповіч, Чамярысы**

### *Я ЗА ЎДЗЕЛ У ВЫБАРАХ*

*У апошнім нумары Вашай газэты з новай сілай разгарэлася палеміка наконт удзелу апазыцыйных сілаў у выбарах.*

*Большасьць нашых апазыцыянэраў схіляецца да няўдзелу ў выбарах. І што рэальна дае такі крок? Нічога. Фактычна для Беларусі гэта нулявое рашэньне — працяг падзеньня эканомікі ў яму, заняпад беларускай культуры і г.д. Атрымліваецца, што сама апазыцыя будзе падтрымліваць Лукашэнку і выконваць яго пляны.*

*Адзінае выйсьце — удзел у*

Пазытывы

# Зімоўка жывёлаў

Некаторыя, мабыць, памятаюць казку з гэткай назвай. Там розныя зьвяры будуюць сабе дамкі: хто зь пяскутруску, хто яшчэ з чагось. Дык то, шаноўныя, у казцы.

Насамрэч беларусы дзеля сваіх каровак звычайна будавалі два памяшканьні: у хляве сама рагуля стаіць, а ў пуні захоўваецца яе правіянт, пераважна духмянае сена. Тое было, паважаныя, да перамогі калгаснага ладу на ўсёй этнічнай тэрыторыі.

| ГАДЫ | КОЛЬКАСЬЦЬ КАРОВАЎ | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | прыватных | дзяржаўных | у разьліку на адзін сялянскі падворак | | |
| | | | прыватных | дзяржаўных | агулам |
| 1941 | 1648 | 308 | 0,9 | 0,2 | 1,1 |
| 1961 | 1215 | 806 | 0,8 | 0,5 | 1,3 |
| 1981 | 890 | 1848 | 0,6 | 1,3 | 1,9 |
| 1991 | 663 | 1699 | 0,5 | 1,3 | 1,8 |
| **2001*** | **630** | **1230** | **0,5** | **1,0** | **1,5** |

* -- прагноз

З 1941 году мы адразу пераскочым ў 1961 г., калі ўсё збольшага супакоілася, і калгасны лад, здавалася, умацаваўся да другога прышэсьця.

Сялянаў рабілася ўсё меней, бо ішла «соцыялістычная урбанізацыя». Кароваў рабілася ўсё болей, бо адбывалася «соцыялістычная індустрыялізацыя» сельскай гаспадаркі.

У выніку краявіды напоўніліся лягернага выгляду кароўнікамі і менш брыдкімі, падобнымі да чагосьці касьмічнага сянажнымі вежамі. Незаўважныя здалёк сіласныя ямы таксама распаўсюдзіліся. Толькі сялянскія падворкі і фізіялёгія кароваў за той час не пасьпелі зьмяніцца досыць значна.

Каровы, як ім наканавана, любілі траву і сена, а сяляне ўцякалі ў гарады або старэлі і сьпіваліся ад калгасна-камуністычнага шчасьця. Таму свае каровы даглядалі сяк-так, а да дзяржаўных ставіліся ўсё больш абыякава.

Пасьля 1985 году сыстэма развальваецца і кароваў штогод менее. Апошнімі гадамі сытуацыя набывае рысы катастрафічнай. Пра якасьць кармоў ніхто не гаворыць нават на сэлектарных нарадах, бо нават умоўных цэнтнэраў кармавых адзінак не стае пры ўсім аптымізме статыстыкаў.

Вось і сёлета нарыхтавалі сена на 12 чэрвеня аж 52% да ўзроўню мінулага году. Тым годам, ня самым лепшым, штодня з 5 да 12 чэрвеня касілі па 48 тыс. га, а сёлета – па 32 тыс. га.

**НАРЫХТОЎКА СЕНА Ў ДЗЯРЖГАСПАДАРКАХ**

| год | тыс.т. | тыс.га | Дата |
|---|---|---|---|
| 1996 | | 933 | 16.06 |
| 1997 | 62 | 457 | 16.06 |
| 1998 | 100 | 415 | 08.06 |
| 1999 | 183 | 495 | 12.06 |
| 2000 | 95 | 400 | 12.06 |

З кастрычніка 1999 г. да 1 чэрвеня 2000 г. колькасьць дзяржаўных кароваў скарацілася з 1245 да 1236 тыс. Не падобна, каб сёлета яна ўзрасла.

Варта ўзгадаць, што ў 1913 годзе ў сучасных межах Беларусі пасьвілася, мычала і зімавала 1610 тыс. кароваў. Цяпер маем 1860. Напярэдзе зіма. Жыць будзем лепш, чым пры царызме і прыватнай уласнасьці.

**Міхал Залескі**

# ДВА СЬВЯТЫ

6 ліпеня ў Літве адзначалі нацыянальнае сьвята – Дзень літоўскае дзяржавы або каранацыі Міндаўга ў Наваградку. Сёлета адзначалі з асаблівым размахам: канцэрты, сымпозіюмы, сустрэчы... Акурат пасьля сьвяткаваньня ў Беларусі свайго «дня рэспублікі» — вызваленьня Менску ад немцаў...

Тымі сьвяточнымі днямі мне давялося размаўляць з адной настаўніцай зь Вісагінасу, ёсьць такое мястэчка на ўсходзе Літвы. Яна — беларуска з паходжаньня. У Вісагінасе наогул багата беларусаў. І тая настаўніца перадусім павіншавала мяне з тым «днём рэспублікі», а пасьля падзялілася сваёй мараю. Яна хоча калі-небудзь звазіць сваіх вучняў, беларусаў, у Берасьце. «А чаму менавіта ў Берасьце?» — пытаюся. «Ну там жа крэпасьць-герой!» — адказала яна. — У нас, у Літве, цяпер ніхто ўжо пра яе ня памятае. А ў школах пагатоў пра тое ня вучаць. І дзеці нічога пра сваю гісторыю ня ведаюць...» «А што вы ведаеце пра Берасьцейскую крэпасьць?» — спытаўся я. «Ну, як жа! Там пачыналася вайна, і абаронцы крэпасьці гераічна супраціўляліся...» «А вы ведаеце, што большасьць абаронцаў былі энкавэдыстамі, якія не пасьпелі зьнішчыць сваіх вязьняў, жыхароў Берасьця ды ваколіцаў, якіх рэпрэсавалі бальшавікі, расстрэльваючы й катуючы іх аж да самых першых нямецкіх налётаў. Усе вязьні берасьцейскае крэпасьці былі расстраляныя без суда, проста пад сьцяною. Але й самім энкавэдыстам не было куды ўцякаць. Нямецкае войска імгненна захапіла ўсю Беларусь. А вы ведаеце, што вайна гэтая пачалася для Берасьцейскай крэпасьці нашмат раней, яшчэ ў жніўні 1939 году. І тады там быў польскі гарнізон, які складаўся пераважна з тутэйшых беларусаў. І яны гераічна бараніліся ўсё ад тых жа немцаў. А калі з абаронцаў у польскіх мундзірах нікога не засталося ў жывых, немцы, для надзейнасьці, яшчэ два дні пляжылі крэпасьць з самалётаў. А пасьля... пасьля ў Берасьці быў фашыстоўска-камуністычны супольны парад. І гітлераўцы ўрачыста, па-прыязнаму перадалі горад і крэпасьць сталінцам... А яшчэ раней гэтая крэпасьць стала сымбалем здрады, калі тут быў падпісаны мір паміж бальшавікамі й немцамі, паводле якога Масква адкупілася ад Нямеччыны беларусамі. А яшчэ раней на месцы гэтае крэпасьці стаяў прыгожы мураваны горад, адзін з самых прыгожых у Эўропе, дзе была найстарэйшая ў нашых краях мураваная сынагога, дзе была надрукаваная першая ў Рэчы Паспалітай Біблія, дзе быў велізарны Мікалаеўскі сабор, у якім была падпісаная царкоўная вунія, дзясяткі кляштараў зь вялікімі касьцёламі... Маскалі ўсё гэтае хараство зьнішчылі і з той цэглы ўзьвялі сваю крэпасьць».

«Не, — адказала тая настаўніца, — я гэтага ня ведала. У савецкіх падручніках пра такое не пісалі». «Дык пра што вы будзеце цяпер распавядаць дзецям?» «Ня ведаю...» — уздыхнула яна. «Звазіце лепей іх у Наваградак і распавядзіце пра першага нашага караля. Рапавядзіце пра пачаткі нашае гісторыі, пра якія, дарэчы, і пішуць у літоўскіх падручніках».

У Літве вялікае сьвята — у 1253 годзе вялікі князь Міндаўг стаў каралём у Навагрэдку, старадаўнім славянскім месьце, якое некалі заклалі валынскія князі. Кім ёсьць Міндаўг для беларусаў? Ён злучыў усе нашыя землі ў адно. Менавіта за ім уся Беларусь і ўсходняя частка Літвы аб'ядналіся ў магутную дзяржаву. З таго часу й пачаў складацца беларускі народ. Ягоная каранацыя стала сымбалем таго пачатку для суседзяў ды ўсёй Эўропы. На жаль, сёньня гэтую дату ў Беларусі ніхто не сьвяткуе. Справа ж ня ў тым, ці прыўлашчыць нам караля Міндаўга непадзельна... Справа ў тым, што Беларусь яшчэ надта далёкая пакуль ад таго, каб бачыць ясна сваю гісторыю, нават зусім блізкую. Напрыклад, чаму ўся Беларусь мусіць сьвяткаваць замену акупацыяў, нямецкую на савецкую?.. І якое дачыненьне да ўваходу ў Менск чырвонага войска ў 1944 годзе мае тое ж Берасьце, якое было занятае саветамі на тры тыдні пазьней? А можа больш лягічна было б гэткую дату адзначаць, скажам, на завяршэньні так званае «Беластоцкае апэрацыі», калі былі вызваленыя ад немцаў самыя заходнія раёны Беларусі? Але тады давядзецца тлумачыць, дзе той Беласток...

Тры тыдні таму ў Наваградку сабралася на рыцарскі скамарошны фэст дзятва ды зь дзецюкамі зь Беларусі й Расеі, каб пабіцца ў рыцарскіх дасьпехах. Гучалі расейскія жарты ды прымаўкі. Нашыя бел-чырона-белыя сьцягі забаранілі... Пра Міндаўга ніхто не згадаў.

**Гары Куманецкі**

## Дзе варта быць

**БАСОВІШЧА**

Традыцыйны фэстываль беларускага року Басовішча-2000 адбудзецца ў Гарадку на Беласточчыне 14–15 ліпеня.

**CONCERTO-SOLO СІМАКОВІЧ**

У чацьвер 13 ліпеня а 17.30 у Нацыянальным мастацкім музэі адбудзецца Concerto-Solo Ларысы Сімаковіч. Калі жадаеце больш даведацца пра гэтую імпрэзу, тэлефануйце 236-60-53.

**БРАСЛАЎ**

У Браслаўскім краязнаўчым музэі



*Пётра Сергіевіч Партрэт земляка.*

адкрылася выстава твораў Пётры Сергіевіча, прымеркаваная да 100-годзьдзя мастака. На выставе – арыгіналы карцінаў, прывезеныя зь Вільні, і карціны, што захоўваліся ў Браславе. Выстава будзе працаваць да канца лета. У Вільні, дзе мастак правёў значную частку свайго жыцьця, таксама адкрыецца выстава і сёньня ж пройдзе сьвяточная вечарына.

**ГУДЗЕВІЧЫ**

У Гудзевіцкім літаратурна-краязнаўчым музэі адкрылася філятэлістычная выстава «Спадчына». Экспанаты для яе прадставіў бронзавы прызёр першай беларускай філятэлістычнай выставы, якая праходзіла ў свой час у Гомелі, Мікалай Бухаўцоў. Экспазыцыю складаюць канвэрты, маркі, картмаксымумы Беларусі, Польшчы, Літвы. У іх адлюстроўваюцца асноўныя пэрыяды беларускай дзяржаўнасьці ад Рагвалода да сучаснасьці.

**БАБРУЙСК**

У Інфармацыйным цэнтры Бабруйску адкрылася выстава пад назвай «Рэзастан». На выставе прадстаўленыя архіўныя дакумэнты, фотаздымкі, схемы, мапы, што адлюстроўваюць супраціў беларускага народу савецкай акупацыі ў 20–30-х гадах, а таксама супрацьстаяньне ёй у 50-х. Агляд экспазыцыйных матэрыялаў суправаджае аповед гісторыкаў, што спэцыяльна займаліся іх вывучэньнем. Выставу прывезьлі ў Бабруйск і прадставілі гісторыкі, што ўваходзяць у Беларускую Лігу Жанчынаў. Праходзіць яна будзе на працягу некалькіх тыдняў.

**ЯМА**

10 ліпеня ў Менску пройдзе цырымонія адкрыцьця помніка «Менскае гета». Пасьля цырымоніі ў канцэртнай залі «Менск» адбудзецца канцэрт вядомага ізраільскага сьпевака Дуду Фішэра. Трэба адзначыць, што некалькі тыдняў таму шэраг яўрэйскіх арганізацыяў зьвярнуліся да ўладаў з просьбай прыпыніць будаўніцтва помніка «Менскае гета». У звароце адзначалася, што ў праекце Леаніда Левіна ня ўлічаная жыдоўская рэлігійная традыцыя, якая забараняе выкарыстаньне выяваў чалавека ў дойлідстве.

**ЛІТЭКСПРЭС**

У панядзелак, 10 ліпеня, а 18-й, у Доме літаратара ўдзельнікі літэкспрэсу правядуць апошнюю сустрэчу зь беларускай публікай перад ад'ездам у Варшаву.

**ГЕРМАНАВІЧЫ**

У музэі культуры і быту ў Германавічах, што пад Шаркоўшчынай, адкрылася выстава, прысьвечаная вайне паміж бальшавікамі і палякамі 1919–1920 г. Сьведчаньнем баёў на нашай тэрыторыі – шматлікія магілы польскіх легіянэраў у Шаркоўшчынскім раёне.

**ФРАНЦУСКІЯ ДЗІКУНЫ**

13 ліпеня ў Менск прыяжджае ансамбаль барока з Францыі з адмысловай назвай «Дзікуны» (па-француску – *Les Sauvages*). Кіруе ім Жэром Пэрно. Саліраваць будзе беларус – Канстанцін Міхальскі (контратэнар). Гучаць творы Карэта, Купэрэна, Габрыэлі, Баха, Вівальдзі. Імпрэза адбудзецца ў Канцэртнай залі Філярмоніі а 19-й.

**ПЭРЛЫ**

У Нацыянальным музэі гісторыі і культуры адкрылася выстава «Шык і рамантыка даўніны». На ёй прадстаўленая калекцыя пэрлавай вышыўкі са



збору Віцебскага абласнога краязнаўчага музэю. Да ўвагі гледачоў прапануюцца 46 твораў дэкору і дамскія аксэсуары XVIII–XIX ст., што ўпрыгожвалі у тыя часы інтэр'ер і адзеньне шляхты і месьцічаў. Выстава будзе адчыненая да сярэдзіны жніўня.

**ДРУГОЕ ЖЫЦЬЦЁ**

10 ліпеня а 19-й вечара ў Дзяржаўным музычным каледжы (пл. Свабоды 7) упершыню паказваюць стужку «Другое жыцьцё». Рэжысэр – Дамінік Пэрно. Зьняты фільм быў у Менску ўвесну 1999 году. Дапамагала (грашыма ды парадамі) Амбасада Францыі ў Беларусі. У Францыі фільм упадабалі. Ці прымуць яго беларусы – пабачым. Перад паказам выступяць навучэнцы музычнага каледжу. Відаць, брат рэжысэра Жэром Пэрно (віялянчэліст) ды піяніст Жэром Дукро, якія разам са стваральнікам стужкі прыедуць на прэм'еру, таксама ня будуць сядзець бяз справы. Уваход вольны.

**АЗЁРЫ**

Больш за 40 месцаў адпачынку для турыстаў наладжана на Нарачанскіх азёрах – альтанкі, пляцоўкі для вогнішчаў



і г.д. Адпачынак на такой падрыхтаванай пляцоўцы абыдзецца ў 250 рублёў у суткі і 150 рублёў прыйдзецца заплаціць за аўтамашыну.

**ФІЛЬМЫ НА РУМЯНЦАВА**

Мабыць, ёсьць пэўныя паралелі ды падабенствы паміж падзеямі ў Ічкерыі ды Беларусі, калі ТБМ вырашыл паказаць разам стужкі «Ніхто ня мусіць нічога чуць» (падзеі красавіка–траўня 1999 г. у Беларусі) і «Зваротны бок сьвету» (сьнежань 1999, Чачэнская рэспубліка). Аўтары фільмаў – Петра Прохазкава ды Ярамір Штэціна. Фільмы створаныя пры дапамозе чэскай фундацыі «Чалавек у нядолі» і агенцтва «Эпіцэнтрум». Адбудзецца паказ 15 ліпеня (у суботу) ў 18.00 на сядзібе ТБМ, (Румянцава 13).

**Алесь Кудрыцкі паводле інфармацыі Беларускай Асацыяцыі Рэсурсавых Цэнтраў**

## БТ вачыма беларуса

### Чыкін перакрые ОРТ

З 10 ліпеня канал ОРТ пачнуць перакрываць беларускімі праграмамі. Сьпярша ў эфір пасьля 12-й ночы пойдуць навіны СТВ – сталічнае тэлевізіі. СТВ, яно ж агенцтва «Менск-навіны» – дзяржаўная арганізацыя, падпарадкаваная гарвыканкаму. Куратарам яе зьяўляецца Віктар Чыкін. СТВ выпускае праграму дэідэалягізаваных навінаў «24 гадзіны», што раней выходзіла на менскім гарадзкім «8 канале», а таксама штотыднёвы бюлетэнь «168 гадзінаў Менску». Навіны на расейскай мове, але вельмі прафэсійна зробленыя. Ніякіх камэнтароў не падаюць, толькі інфармацыю – ад афіцыйнага параду да пікету ТБМ у абарону беларускай мовы.

Гэтак, сталічнымі навінамі, краіну будуць прызвучаць, што ОРТ у Беларусі можа й ня быць. Мо й Завадзкага будуць выкарыстоўваць на будучым БТ-2 у якасьці нявольніка?..

**Сяргей Лук'яновіч**

# ЧУЖЫ ПАСЯРОД СВАЇХ

***Чорна-белыя працы фотамастака выстаўляюцца ў Варшаве і ігнаруюцца ў Менску***

Нічога не шакуе звычайнага чалавека болей, чым тое, пра што ў яго даўно склалася пэўная думка. Шматлікія перамогі фотамастака Аркадзя Бірылкі ў розных конкурсах стварылі яму імідж чалавека, лепш за якога ніхто ня здольны зрабіць жаночы партрэт. Ягоная знакавая праца – выява маладой маці, стылізаваная пад Джаконду Леанарда. Аднак падрыхтаваная Аркадзем выстава «Менскія drug-qeen у чорным і белым» (спачатку яна называлася «Гей-тэатар») нарабіла жудаснага скандалу. Нядобры камізм становішча ў тым, што самую выставу ў Менску ня бачыў ніхто, апрача сяброў Аркадзя і чытачоў гейскага часопіса «Forum-Lambda». Сёньня гэтая выстава адкрываецца ў Варшаве ў межах III сусьветнага фэсталю гейска-лесьбійскай культуры, на які запрасілі й беларусаў. Зь беларусаў паехалі Алена Адамчык з сваімі «каляровымі» геямі, старшыня Лігі сэксменшасьцяў Эдвард Тарлецкі з дакладам, ды-джэй Ядзік, самі drug-qeen «Мая» і «Патрыцыя» (тэрмінам drug-qeen вызначаюцца артысты парадыйнага жанру, якія сьпяваюць, танчаць і весяляць публіку ў жаночым адзеньні). Выстава Аркадзя Бірылкі паехала без свайго гаспадара, пакуль цяжка прадказаць ейны посьпех.

Канфлікт пачаўся ў рэдакцыі газэты «Знамя юности», дзе Аркадзь Бірылка працуе фотакарэспандэнтам. Пасьля таго, як часопіс «F/L» надрукаваў некалькі твораў Бірылкі і зьмясьціў абвестку пра тое, што мастака ў якасьці мадэляў цікавяць маладыя людзі абодвух палоў зь цікавым уяўленьнем пра сваё цела і з уласнымі ідэямі, у рэдакцыі «ЗЮ» абурыліся. Заўважу, што сам Аркадзь – ня гей. І раней проста ніколі не сутыкаўся з гей-супольнасьцю. Дык вось, у «Знамя юности» на «злачынства» Аркадзя адрэагавалі вельмі спэцыфічна – абвесьцілі строгую вымову і пазбавілі прэміі. Частка калектыву перастала вітацца з фотамастаком за руку. Нумар часопіса, дзе надрукаваныя здымкі і абвестка, хадзіў па руках, як нешта «смажанае» і «перасмажанае».

Для Аркадзя ўсё скончылася адносна не трагічна. Яго ня звольнілі з працы, адкрываецца ягоная выстава, у жніўні ягоныя працы паедуць у Стакгольм. Але варта казаць пра тэндэнцыю. Пра непрыняцьце быццам бы разумнымі, быццам бы інтэлігентнымі людзьмі таго, з чым яны не сутыкаліся раней і што з-за гэтага падаецца ім ледзь не злачынствам.

**Ціна Клыкоўская**



# КРАЙ НЕДАБУДАВАНАГА САЦЫЯЛІЗМУ




Мэксыка, як мы яе разумеем, пачалася з крывавай Канкісты. Наколькі крывавай, сьведчыць той факт, што насельніцтва краіны зьменшылася з 37,5 мільёнаў чалавек да заваёвы да 1,5 мільёнаў у 1650 годзе, і толькі ў 1960 г. краіна дасягнула дагішпанскай колькасьці насельніцтва (гэта рэкамэндую запомніць плакальнікам па шматпакутнай Беларусі). Таму й сёньня мэксыканцы пра драму Канкісты гавораць так, нібы гэта было ўчора. Мэксыканскі антраполяг Д.Рыбэйра пісаў, што пад час сьвяткаваньня 150-х угодкаў незалежнасьці Мэксыкі ягоныя гішпанскія сябры баяліся хадзіць зь ім па горадзе, каб не патрапіць пад кулакі мэксыканскіх патрыётаў.

Здабыцьцё незалежнасьці было справаю рук мэксыканскай арыстакратыі. Незалежнасьць прынесла пэрыяд доўгіх узброеных канфліктаў паміж рознымі арыстакратычнымі групоўкамі. Старая алігархія паклікала ў краіну генэалягічна бездакорнага караля зь люксэмбурскай дынастыі і францускія штыхі. Неўзабаве выбухнула крывавае паўстаньне, караля забілі, а ў краіне надоўга запанавалі клерыкальна-нацыяналістычныя рэжымы. У памяць пра тыя падзеі на сьцяне мэксыканскага ўрадавага палацу дагэтуль вісіць карціна: Карл Маркс паціскае руку кіраўніку паўстаньня Б.Хуарэсу. І подпіс: праз мой народ будзе прамаўляць дух.

Вялікая Мэксыканская рэвалюцыя выбухнула ў 1910 годзе, скіраваная яна была супраць паноўнага ў краіне хаўрусу лятыфундыстаў, царкоўнікаў і ваенных. Прэзыдэнт Дыяс, якому было за 80, адбыў на пасадзе больш за 5 тэрмінаў і хацеў яшчэ. Правадыры рэвалюцыі Э.Сапата і Ф.Вілья былі людзьмі з народу і першымі вялікімі цэнтральнаамэрыканскімі рэвалюцыянэрамі-партызанамі. Рэвалюцыя дала магчымасьць ажыцьцявіць аграрную рэформу на вёсцы, дэмакратызаваць дзяржаўную сыстэму, аддзяліць царкву ад дзяржавы і ўзяць пад дзяржаўны кантроль здабычу карысных выкапняў. Мэксыканскія рэвалюцыянэры ўдала скарысталі з таго, што ўся ўвага найбуйнейшых імпэрыялістычных дзяржаваў была прыкутая да сусьветнай вайны, што кіпела, аднак, амаль выключна ў Эўропе.

У рэвалюцыі загінуў кожны пятнаццаты жыхар Мэксыкі, краіна была спляжаная. Рэвалюцыя і сфармавала сучасную мэксыканскую нацыю. З так званай «рэвалюцыйнай эліты» і склаўся новы кіраўнічы слой. Гэтыя чынавенскія эліты ўвесь час спасылаліся на ідэалы рэвалюцыі, але паступова зрасталіся з нацыянальнай буржуазіяй, даючы грунт стварэньню ўнікальнай для рэгіёну нацыяналістычнай, лібэральнай, асьвечанай мадэлі грамадзтва. Інстытуцыйна-рэвалюцыйная партыя, утвораная пад час рэвалюцыі, утрымлівала ўладу 71 год, стаўшы партыяй перадавога чынавенства і абдзяржаўленых прафсаюзаў. Яна ўмела і пасьпяхова, як не ўдавалася нікому ні ў якой іншай краіне сьвету, процістаяла амэрыканскаму экспансіянізму. Пэруанскі пісьменьнік-лібэрал Варгас Льёса назваў мэксыканскі палітычны лад «ідэальнай дыктатурай».



І хоць ІРП даўно ўжо падтрымала ідэю стварэньня супольнай з Амэрыкай і Канадай зоны вольнага гандлю NAFTA, даўно ўжо зраслася з амэрыканскімі манаполіямі, перамога на выбарах у Мэксыцы Вісэнтэ Фокса, кіраўніка мэксыканскага аддзяленьня кампаніі Pepsi, усё ж ёсьць і паказчыкам, і зарукай яшчэ шчыльнейшага супрацоўніцтва Мэксыкі з ЗША. Спадар Фокс удае зь сябе звычайнага папуліста, усюды ходзіць у каўбойскіх ботах. Яго часта параўноўваюць з Кларкам Гейблам. Праблему ч'япаскіх паўстанцаў ён паабяцаў вырашыць за 15 хвілінаў, паразмаўляўшы з Маркасам...

Карацей, тыповы лідэр-дэмагог эпохі тэлебачаньня і Інтэрнэту — як Лукашэнка, як Эстрада на Філіпінах, як Чавэз у Вэнэсуэле, як Мэчыяр у Славаччыне. «Прэзыдэнт павінен быць правадыром», — сказаў ён у адным з інтэрвію. Пабачым, наколькі дэмагог пад амэрыканскім кантролем адрозьніваецца ад дэмагога пад кантролем расейскім.

**Сяргей Радштэйн**

***На здымках:*** *эмблема Музэю Мэксыканскай Рэвалюцыі; прэзыдэнт Вісэнтэ Фокс.*

# ФІЛЁЗАФ-ГУРАЛЬ

***Кс. Праф. Юзаф Тышнэр (1931—2000)***

Хачу падзяліцца з Вамі сумнай навіною. 28 чэрвеня пасьля цяжкай хваробы памёр мой Настаўнік і Прафэсар часоў студыяваньня ў Кракаве ксёндз Юзаф Тышнэр. Другога ліпеня ў ягонай роднай вёсцы адбылося пахаваньне, на якім я, на жаль, ня змог прысутнічаць. І таму хацелася б, каб мая кароткая споведзь стала хаця б невялічкай данінай памяці гэтаму цудоўнаму чалавеку, слава пра якога дасягнула, мяркую, і інтэлектуальных колаў Беларусі.

У 1979 годзе я, зусім яшчэ малады чалавек, упершыню прачытаў некалькі артыкулаў на тэму нетамістычнага напрамку ў хрысьціянскай філязофіі. Гэтыя артыкулы друкаваў кракаўскі штомесячнік «Znak», а таксама «Tygodnik Powszechny». Артыкулы сьведчылі аб тым, што, апроч тамізму, у хрысьціянстве, у прыватнасьці, у каталіцызме, ёсьць месца і для іншай філязофіі. Тэксты выклікалі вялізную дыскусію і нават спрэчкі паміж «тамістычным» Люблінам (Каталіцкі ўнівэрсытэт) і «фэнамэналягічным» і дысыдэнцкім (у інтэлектуальным сэнсе) Кракавам. Тышнэр быў вучнем вядомага прафэсара Рамана Інгардэна, аўтара вялікай шматтомнай працы «Спрэчка пра існаваньне сьвету». Прафэсар Інгардэн, у сваю чаргу, быў вучнем і аднадумцам прафэсара Эдмунда Гусэрля. І да сёньня фэнамэналягічныя традыцыі ў Кракаве дастаткова моцныя.

Праф.Тышнэр, аднак, не абмяжоўваўся тэарэтычнымі пытаньнямі школы Гусэрля ці Гайдэгера. У сярэдзіне 70-х гадоў пабачыла сьвет ягоная кніга «Сьвет чалавечай надзеі», збор неартадаксальных тэкстаў на тэму хрысьціянскай філязофіі, а таксама крыніцаў і сутнасьці польскай філязофіі.

Панятак «надзея» становіцца для праф.Тышнэра асноўным ува ўсёй ягонай творчасьці. Час ад часу зьвяртаючыся да этыкі, тэалёгіі, ён разважае на тэму становішча чалавека ў сучасным сьвеце. Адкідваючы ідэалёгіі і «ізмы», што абмяжоўваюць свабоду чалавека, Тышнэр адкрывае перад сваімі вучнямі і слухачамі вялізную прастору надзеі, якую дае чалавеку адчуваньне ягоных магчымасьцяў і бясконцасьць розуму. Абапіраючыся на тэксты фэнамэнолягаў, ён указваў на неабходнасьць звароту да крыніцаў як з галіны гісторыі мысьленьня, так і практыкі.

Калі прыйшоў час смуткаў і рэвалюцыяў «Салідарнасьці» ў 1980 годзе, прафэсар Тышнэр зьвяртаецца да крыніцаў марксізму, г.зн. да Гегеля, і наноў перачытвае «Фэнамэналёгію духу». Біблейская гісторыясофія Гегеля выкрывае ідэалягічную залежнасьць Маркса ад арыгінальнай «гностыкі», якой зьяўляецца вера ў прагрэс. Праз некалькі гадоў гэтай тэме будзе прысьвечана кніга «У краіне хворага ўяўленьня».

Мне пашанцавала сустрэцца з праф.Тышнэрам, калі я ў пачатку 1981 году вырашыў прыехаць у Кракаў. Я марыў вывучаць філязофію, але ня ведаў, з чаго пачаць, бо я знаходзіўся па-за межамі сьценаў навучальнай установы і ня меў ніякіх студэнцкіх правоў. Першае, што я зрабіў, гэта накіраваўся да Тышнэра. Ён паглядзеў на мяне, пасьміхнуўся і запрасіў наведваць заняткі. Потым, дзякуючы яму, я зразумеў, што вышэйшая навучальная ўстанова — гэта ня толькі заліковая кніжка, лекцыі, іспыты. Галоўнае — гэта прысутнасьць Майстра і сьледаваньне за будыйскім гуру ці Сакратам, паўсюдна сьледавалі за Тышнэрам: на заняткі ў духоўную сэмінарыю, у тэатральную студыю, на факультэт паляністыкі і на імшу ў касьцёл сьв.Ганны, у якім кожны тыдзень прафэсар Тышнэр чытаў казані-лекцыі сваім нізкім цудоўным голасам.

Тышнэр заўсёды быў атачаны шчыльным колам вучняў: студэнты, мастакі, палітыкі, дысыдэнты... Нягледзячы на гэта, яму неўласьціва было пачуцьцё фанабэрыі. Ён быў чалавекам незвычайна сьціплым і адначасова вельмі дасьціпным. Умеў заўсёды трапна і некалькімі словамі спыніць плынь словаў і балбатню сваіх апанэнтаў. Цудоўнае эрудыцыі чалавек, ён меў над імі вялікую інтэлектуальную перавагу, а яго бліскучы розум абяззбройваў крытыкаў-пасрэднасьцяў, як зь лягеру марксістаў, так і каталіцкіх інтэгрыстаў. Адносна першых і другіх Тышнэр быў дысыдэнтам. Можа, менавіта таму ён так і ня здолеў дасягнуць вялікіх пасадаў і ляўраў.

Але, нягледзячы на гэта, менавіта Ян Павал ІІ любіў часта запрашаць да сябе і слухаць, сьпярша ў Кракаве, потым у Ватыкане, «шараговага» ксяндза Юзафа Тышнэра ў пошуках падтрымкі і натхненьня для сваёй пастырскай актыўнасьці.

З прычыны філязофскіх захапленьняў яго запрашаюць на зьезд «Салідарнасьці», які адбыўся ў 1981 годзе, і, нечакана для самога сябе, ён становіцца духоўным лідэрам «Салідарнасьці». Пасьля ўвядзеньня вайсковага становішча, не шкадуючы сваіх сілаў і працы, ён заклікаў да мужнасьці і захаваньня надзеі. На аснове цыклю ягоных лекцыяў была выдадзеная кніга «Этыка Салідарнасьці», якая для многіх дзеячоў, якія былі за кратамі, зьяўлялася духоўным і інтэлектуальным апірышчам у цяжкі час.

І калі мы, усхваляваныя студэнты, прыходзілі да яго ў 1982 годзе з пытаньнем «што рабіць?», ён вымаў запыленыя асобнікі кніг Норвіда і пераконваў нас, што ў Польшчы адбываюцца незвычайныя падзеі менавіта таму, што яна мае глыбокія традыцыі грамадзкай думкі. Патрыятызм Тышнэра ўпісаўся ў даўнія традыцыі польскай палітычнай думкі XIX і XX ст. Ён рабіў стаўку на мысьленьне, а не на неабачлівае дзеяньне, якое ўжо неаднойчы прыводзіла палякаў да безнадзейнасьці і «сармацкай мэлянхоліі».

Заслугай Тышнэра для Польшчы было тое, што ён падняў статус рэгіёнаў і правінцыі. Ён заўсёды ганарыўся тым, што зьяўляецца горцам («гуралем»). Паходзіў зь беднай сям'і вясковага настаўніка на Падгалі. Ідэальна размаўляў на дыялекце горцаў, лічыў яго «высокай мовай». Ягоная «Гісторыя філязофіі па-гуральску» стала ў апошнія гады бэстсэлерам для чытачоў. А горцы абіралі яго сваім ганаровым старшынём у некалькіх рэгіянальных арганізацыях.



Калі паміраючага ад раку гартані наведала далегацыя ад Прэзыдэнта, каб уручыць яму самую высокую польскую ўзнагароду — Ордэн Белага Арла, ня маючы магчымасьці размаўляць, ён піша на паперы: «Ня шмат вам скажу, бо вучуся размаўляць наноў, але лягчэй за ўсё мне даецца гуральская лаянка». У лякарні наведаў яго таксама Папа пад час свайго леташняга візыту ў Польшчу.

Ягоная хвароба — гэта прынясеньне сябе ў ахвяру на алтар служэньня сваім вучням, студэнтам, слухачам. Я ніколі не забуду, як ён узімку, з завязаным на шыі шалікам, прыходзіў на лекцыі. Не зьвяртаючы ўвагі на сіплы і амаль зьніклы голас, ён мужна змагаўся са сваёй хваробай і не стамляўся распавядаць нам пра тое, што не заўсёды можна было прачытаць у самых разумных кнігах. Непасрэдную перадачу ведаў, дыялёг са сваімі вучнямі лічыў самай лепшай формай, каб падзяліцца сваімі ведамі і досьведам.

Пакінуў пасьля сябе дзясяткі кніг, сотні артыкулаў, тысячы вучняў і прыхільнікаў. Але, найперш, ён пакінуў пасьля сябе надзею, што не прагрэс і рэвалюцыі зьмяняюць сьвет, а сіла чалавечай дабрыні.

**Марыюш Машкевіч**

«Басовішча-2000» адбудзецца 14-15 ліпеня ў Гарадку недалёка ад Беластоку (Рэспубліка Польшча). У першы дзень пройдзе конкурс маладых беларускіх і польскіх гуртоў, а ў другі дзень выступяць пераможцы і госьці: «NRM», «УЛІС», «КРАМА», «ЗЬНІЧ», «МЯСЦОВЫ ЧАС», «DEVIATION», «КАЛЬЯН», «EXIST» і іншыя (Беларусь), «ACID DRINKERS» (Польшча) і іншыя. Фэстываль праходзіць на адкрытым паветры, бясплатны — заплаціць вам трэба толькі за месца для намёта. Усіх сардэчна запрашаем!

«Басовішча-2000» адбудзецца 14-15 ліпеня ў Гарадку недалёка ад Беластоку (Рэспубліка Польшча). У першы дзень пройдзе конкурс маладых беларускіх і польскіх гуртоў, а ў другі дзень выступяць пераможцы і госьці: «NRM», «УЛІС», «КРАМА», «ЗЬНІЧ», «МЯСЦОВЫ ЧАС», «DEVIATION», «КАЛЬЯН», «EXIST» і іншыя (Беларусь), «ACID DRINKERS» (Польшча) і іншыя. Фэстываль праходзіць на адкрытым паветры, бясплатны – заплаціць вам трэба толькі за месца для намёта. Усіх сардэчна запрашаем!

# ЧАЛАВЕК — СКУЛЬПТАР

*Працяг са старонкі 1*

Тут, проста сярод вёскі, стаіць вялікі крыж з прымацаванай да яго шкляной каплічкаю Дзевы Марыі. Штовечар, увесь травень і ўвесь чэрвень зьбіраюцца пад ім людзі, кленчаць, моляцца й сьпяваюць. Пайшоўшы празь лес на сьпеў, я аказаўся на скрыжаваньні вясковых вулак, дзе пад тым крыжам сабралася ўсё тутэйшае жыхарства ад старых да малых. Счакаўшы канца сьпеву, разгаварыўся з тутэйшымі кабетамі. Спытаўся, калі быў пастаўлены гэты прыгожы крыж. І імя айца Яна Шуткевіча ўсплыло амаль адразу... Навыперадкі, хорам яны загаварылі. Маўляў, гэты крыж загадаў ім паставіць ён. Яшчэ за саветамі. Казаў, каб не баяліся, трымаліся свайго.

«Ён ў нас служыў у Лынтупах, ён і ў Менску катэдру адстроіў. Айцец Ян Шуткевіч. У нас быў, пасьля ў Паставах год быў. У нас касьцёл аднавіў, у сярэдзіне красату зрабіў. Тады паехаў. Ён як скульптар, такі чалавек. Умее рабіць. Нам гэтую скульптуру прывез. Тады ў Менск паехаў, там рэстаўрацыю зрабіў. Там цяпер прыгожа. А ў Паставах які касьцёл быў, вой!... Абы-які... Там жа ўсё з чырвонае цэглы. І там ён усё зрабіў. Адкрасіў, адрабіў і паехаў... Ён і загадаў нам паставіць гэты крыж».

Паслухаўшы кабетаў, я ўявіў сабе волата, які варочае людзкімі лёсамі й цяжкім берамем зямных клопатаў. Але гэта ўсё праўда. Менавіта Ян Шуткевіч нейкім дзівам за часоў СССР здолеў паадчыняць паўтузіна касьцёлаў на Віцебшчыне й Меншчыне. Але найперш ён праславіўся аднаўленьнем менскага катэдральнага сабору. А гэта азначала выратаваньне ня толькі душаў, але і ўнікальных помнікаў нашае старасьвеччыны. Моцна запала мне ў памяць сялянскае параўнаньне ксяндза са скульптарам. Пра тое, што ў Беларусі яго помняць дабром, я сказаў айцу Яну па прыезьдзе ў Вільню.

-- Так, так. І ў Паставах, і ў Лынтупах, і ў Камаях, і ў Менску. — Згадаў ён і працягваў. — Там другія людзі. Яны там бедныя матэрыяльна, але вельмі багатыя духоўна. Сэрцамі багатыя! Я хацеў бы паехаць у Ігнацішкі. Гэта там быў першы крыж. Мы яго паставілі яшчэ пры камуне. Мы ні ў кога не пыталіся. Вёска маленькая. Паставілі — і ўсё! Паставілі, нам нічога ніхто не сказаў. І гэтак абышлося. А пасьля ўжо зрабілі каплічку. І каплічку за могілкамі пакрылі. А пасьля пайшлі касьцёлы расьці, як грыбы па дажджу: Паставы, Лучай, Даніловічы, Сьвір... Гэта ўсё я адчыняў. У Задзеў'і я таксама адчыняў. І гэтак далей, гэтак далей. Мая апошняя была катэдра. Я вельмі замучыўся... Хацеў бы ўжо адпачыць у сваёй хаце. Але й гэтая хата мяне ня грэе. Там чатыры пакоі. Але зімою жыву ў адным, бо не магу ўсё абагрэць. Мне на бэнзын парою не хапае... Як будзеце там... Я аб іх думаю амаль кожны дзень. Яны вельмі добрыя. Яны вельмі дапамаглі. З тым рамонтам касьцёлу. Каб не яны... Божа! Я ня ведаю, што было б...


Здымак Анатоля Кляшчука

Айцец Ян не ўдаваўся ў аповед пра тое, як і што яму там перашкаджала, якіх высілкаў каштавала тое аднаўленьне. Напрыклад, адзін тэатразнаўца зь Менску распавядаў мне, што яму давялося скрасьці з рэквізыту Купалаўскага тэатру сапраўдны пастаўскі касьцельны звон ды завесьці айцу Шуткевічу. Той грэх быў адпушчаны. А старасьвецкі звон цяпер на сваім месцы. І стаяць дасёньня, сьвецяцца харaством бажніцы. Як жа Вы гэта зрабілі?

— Ну, зрабіў. Там рабілі фрэскі жывапісцы зь Зімняга палацу, зь Пецярбургу! І ў Паставах яны рабілі фрэскі. У Лынтупах людзі маюць цяпер тое, што заслужылі. У Паставах іншыя людзі... Апроч сям'і Барыса ў Ігнацішках, там вельмі цяжкія людзі. Але я думаў, што перараблю іх па-свойму. Але ўсяго не абдымеш, усё ня зробіш. Жыцьцё кароткае. Лучай ўратаваў, гэты касьцёл Агінскіх, Сьвятога Тадэвуша. Там рабілі тыя ж жывапісцы, што рабілі ў Нясьвіжы, для Радзівілаў...

І праўда, адноўленыя сьвятыні будуць радаваць нас. Але найбольшы чын айца Яна – аднаўленьне Катэдральнага сабору ў Менску, дзе да таго 50 гадоў месьціліся спартовыя залі. Можа памятаеце тую ганебную валтузьню паміж дзюдаістамі ды вернікамі, пераважна жанчынамі, якія прасілі вярнуць сьвятыню. Сем тыдняў тады айцец Шуткевіч штодня ладзіў шэсьці вакол касьцёлу са сьпевамі й малітвамі... Пасьля той крыж, які несьлі вернікі, быў пастаўлены над сьвятыняю. І пачалося аднаўленьне. Айцец Ян згадвае гэта:

— У Менску мы адбудоўвалі катэдру. Гэта было пекла на зямлі. Я там быў першы дэкан і першы пробашч. А цяпер там у Менску як вада ў ступе тоўчыцца... Да мяне йшла моладзь з унівэрсытэту, з мэдінстытуту, з касэрваторыі. Адусюль!


Здымак Анатоля Кляшчука

Я папрасіў айца Яна распавесьці пра тое, як яму служыцца цяпер у Вільні. Бо прамінула ўжо больш за два гады. І цяпер касьцёл Барталямэя ўжо мусіў стаць апірышчам беларушчыны...

— Я прыехаў у Вільню, каб служыць беларусам. Але беларусаў у мяне няма. Чалавек шэсьць у нядзелю на імшы бывае. На беларускай імшы. Вось і ўсё. Я думаю зьехаць. У Менск ці ў Маскву. І гэты статус беларускага касьцёлу будзе згублены. Прыцягнуў во энтузіязмам, але далей цягнуць не магу. Беларусам гэта непатрэбна. Вось і ўсё такое маё жыцьцё».

Я быў уражаны гэткімі словамі. Айцец Ян абурана распавядаў, як адзін сьведамы беларус дае дзіцяці літ і адпраўляе яго ў касьцёл, а сам за вуглом сядзіць у бары і прапівае за гэты час усе 50 літаў. У выніку касьцёл бедны і ня мае беларускае суполкі, якая б здольная была падтрымліваць сваю бажніцу ці хоць бы зьбіраць дастатковую колькасьць вернікаў на беларускія службы. Заўважу, што сьведамых беларусаў-каталікоў у Вільні дастаткова...

Добра памятаю, неяк улетку, яшчэ як ня быў той касьцёл вызвалены ад скульптурных майстэрняў, я наўгад завітаў у ягоны дворык разам з Адамам Глёбусам. Нас сустрэлі гукі беларускае малітвы... Двор быў


Здымак Дзяніса Раманюка

# ПАДЗЬВІЖНІКІ

Калі надзяваеш ласты і маску і даеш нырца ў цёмныя воды возера Балдук, цябе яшчэ не пакідае думка пра тое, што глыбіня гэтага возера — 40 мэтраў. Дно, парослае дзівоснымі расьлінамі, можна разглядаць, як у тэлевізары. Крыху вусьцішна робіцца ад таго, што яно такое стромае, так імкліва зьбягае ўніз і губляецца там у цемры вазёрнае глыбізны. Вось бы сюды з батыскафам! — адгукаецца ў табе прага пазнаньня. Што там можа быць, на сарака мэтрах? Якія-небудзь затанулыя чаўны, вайсковыя дасьпехі прамінулых часоў, сьведчаньні гісторыі. Нарэшце трэцяя думка, якая ўспрымаецца табою як адкрыцьцё — гэтае падводнае царства, поўнае таямніцаў і свайго непарапыннага жыцьця — гэта таксама Беларусь.

Ужо на беразе, малюючы сабе ва ўяўленьні мапу краіны, ты думаеш пра тое, якую тэрыторыю займае яна — падводная Беларусь? Тысячы азёраў і рэк... Сюды ж дадаем непралазныя балоты і лясныя чашчобы, дзе жывуць сваім адасобленым жыцьцём усе гэтыя нябачныя воку тысячы ласёў, ваўкоў, барсукоў... Словам, усё, дзе не бывае, не гаспадарыць чалавек. Пасьля невялікае дыскусіі зь сябрамі пагаджаемся, што гэта можа быць і трэцяя частка. Краіна, у якой мы жывем і не жывем адначасова. Краіна, якая таксама носіць найменьне Беларусь, але існуе па-за грамадзкімі дачыненьнямі ды парадкамі, што завялі людзі. Краіна-анклаў. Зрэшты, зь ейнага гледзішча гэта якраз мы на сваіх цывілізацыйных выспах — анклаў. Калі б мы разумелі гэта, бадай, зусім іншым было б і наша стаўленьне да гэтае краіны, дзе мы, аказваецца, ня поўныя гаспадары і дзе далёка ня ўсё існуе ў адпаведнасьці з законам.

Разьвіваючы гэтую думку, абавязкова прыйдзеш да высновы, што і ў чалавечым грамадзтве ў Беларусі сытуацыя падобная. Мы тут ламаем дзіды на менскіх вуліцах, часта не падазраючы, што адначасова з намі існуе паралельная Беларусь, свая планіда са сваёй лёгікай і сваімі парадкамі. Да прыкладу, тыдзень таму па ўсёй краіне ішлі пілігрымы. Іхны пешы маршрут — да Будслава, дзе ўшаноўваюць сьвяты абраз Маці Божай Будслаўскай. Не вар'яты-фанатыкі, а людзі паспалітыя, ідуць-пяюць, зьдзяйсьняюць свой подзьвіг. Ідуць ажно з Гомеля, а гэта з паўтысячы кілямэтраў! У гэтых шлях займае два тыдні. Ёсьць такія, што ўвесь шлях ідуць на каленях. Вось бы ўзьняцца ў паветра, ды пабачыць, як па беларускіх дарогах імкнуць гэтыя чалавечыя ручаіны. Каб ацаніць аб'ём гэтае энэргіі, што рэалізуецца ў паралельнай Беларусі. Менавіта там сканцэнтравалася ці ня ўсё беларускае сучаснае падзьвіжніцтва, якое пакінула анэмічнае цела Беларусі гэтай — сацыяльнай, культурнай, эканамічнай.

Раней беларускія вернікі за самы вялікі аб'ект свайго паломніцтва мелі Вострую Браму ў Вільні. Але цяпер сьвятыню адрэзала мяжа. І пілігрымы ходзяць у Будслаў. Наколькі мы ў гэтым сэнсе прагрэсуем, можна ацаніць, параўноўваючы сёньняшні дзень і старую гісторыю, калі ў Беларусі паломніцтва было ніяк ня меншым, даходзілі ажно да Ерусаліму. Хрэстаматыйныя прыклады пілігрымак Эўфрасіні Полацкай або Мікалая Радзівіла Сіроткі пацьвярджаюць гэта. Цяпер жа непераадольныя межы гэтую масавую зьяву сканцэнтравалі на тэрыторыі краіны.

Ксёндз Шуткевіч скардзіцца, што беларусы ня хочуць утрымліваць свой беларускі віленскі касьцёл. Магчыма, і тут праблема — у дачыненьнях дзьвюх паралельных Беларусяў. Беларусь духоўная зьдзяйсьняе подзьвіг і апэлюе да Беларусі сацыяльнай, нацыянальнай — па матэрыяльную падтрымку. А тая перажывае стан анэміі і абыякавасьці да ўсяго на



# ПАСЬМЯРОТНАЯ ТУГА ЧАЛАВЕКА

### Алена Ермаловіч абараняе добрае імя свайго бацькі



Чалавек жыве, ня маючы спакою. І пасьля сьмерці ў спакої яго не пакідаюць.

Мікола Ермаловіч загінуў недарэчна і звычайна, як гінуць тысячы і тысячы людзей і як толькі можа загінуць напаўсьляпы гісторык, кінуты дажываць у бязладны і разлогі мікрагорад менскай Малінаўкі. Пайшоў з раніцы па газэты й часопісы на пошту (на паштовую скрынку ў пад'езьдзе выпісваць было немагчыма, бо кралі, а не чытаць ён як прыроджаны інтэлігент ня мог). Ішоў сьнег, пад нагамі хлюпала. Пераходзіў дарогу — шырачэзную малінаўскую магістраль. Таксіст не пасьпеў затармазіць. Міколу Ермаловіча машынаю цягнула яшчэ 25 мэтраў, галавою ён прабіў лабавое шкло.

Мэдычная мова ня знае ні слова «геній», ні слова «пакутнік». Яна апэруе іншымі выразамі: скальпаваная рана галавы, дысьлякацыя галаўнога мозгу, падвойны пералом тазу, пералом двух скабаў, пералом лыткі. Пры гэтым Мікола Ермаловіч яшчэ 12 гадзінаў быццам бы захоўваў сьвядомасьць.

Увечары ён меўся ехаць у Чырвоны касьцёл. Уначы перад здарэньнем прысьніў, што выбірае бульбу, на раніцы патэлефанаваў дачцэ ў Маладэчна. «Вельмі благі сон, — кажа ягоная дачка Алена Ермаловіч, — я прасіла яго: нікуды не хадзі сёньня». Ратаваць яго не ратавалі, нэйрахірурга ня выклікалі, кажа Алена Ермаловіч. Хто лечыць у нас у краіне 80-гадовых дзядоў зь пераломамі тазу?

На таксі ехаў хлопец 1967 году нараджэньня. «Ён прыходзіў у той дзень, калі бацька памёр, — кажа спн.Ермаловіч, — я кінулася на яго, мяне адцягнулі. Сваякі казалі мне, што як ён будзе даваць грошы на паховіны, дык бяры, але я не захацела». Пытаюся, ці знаў той хлопец, кім быў Ваш бацька? Адвакат кажа, што ведаў.

Алена Ермаловіч жахнулася, калі пачытала матэрыялы крымінальнай справы. У справе пішацца, што быццам бы ў крыві ў Міколы Ермаловіча было 1,65 праміле алькаголю — гэта ідэнтычна нібы ён быў выпіўшы паўлітра гарэлкі. Гэта яе абурыла, скаланула. Ну, няхай бы не каралі таго хлопца, няхай бы прызналі, што бацька сам вінаваты. Ну, вядома, як ён там бачыў з-за сваіх таўсьцючых шкельцаў. Але ж навошта ганьбіць чэснае імя нежывога чалавека?

Рэч у тым, што Ермаловіч зусім ня піў, ня мог сабе дазволіць пры сваім здароўі і вялізных творчых плянах. Таму й захаваў нязвыклую фізычную сілу да такіх старых гадоў, абыходзіўся без чужой дапамогі. Штораніцы, устаўшы, ён рабіў зарадку, пасьля 5 хвілінаў сядзеў у халоднай вадзе ў ваньне, абціраўся ручніком. «І па-іхнаму ён пасьля гэтага выжлукціў пляшку гарэлкі і пайшоў на пошту?» Гэты запіс у справе мог быць падроблены, — да такой высновы прыходзіш, слухаючы Алену Ермаловіч. Сапраўды, у адным дакумэнце пішуць, што алькаголю ў крыві ня знойдзена, у другім — што была зроблена проба Рапапорта, і яна паказала 1,65 праміле. «Каб зрабіць пробу Рапапорта, трэба пяць хвілінаў дыхаць у трубку. Дык гэта трэба ў кнігу рэкордаў Гінэса занесьці, калі чалавек з бацькавымі траўмамі яшчэ здольны пяць хвілінаў дыхаць у трубку», — кажа А.Ермаловіч. Недавер у яе выклікаюць і іншыя няўвязкі ў справе: у адным месцы піша, што машына ехала з хуткасьцю 60 км у гадзіну, у другім — 45—50 і г.д.

У тое, што Мікола Ермаловіч мог быць п'яны, ня вераць і людзі, якія хоць колькі яго ведалі. Плякатыст Уладзімер Крукоўскі кажа, што Ермаловіч ня піў ані, ён нават не пачаставаў сп.Крукоўскага кілішкам, калі той браў апошняе інтэрвію ў гісторыка, хоць так вядзецца між сябрамі, што Ермаловіч быў унікальны ў сэнсе цьвярозасьці чалавек. Праваабаронцы камітэт «Вясна-96» даручыў адвакату Сяргею Цурку дапамагчы Алене Ермаловіч у абароне імя свайго бацькі.

Маладому таксісту ня хочацца сядаць у турму з-за здарэньня. І сябры ягоныя хочуць яго выратаваць.

Дык што, усё ж фальсыфікацыя дакумэнтаў?

Што цяпер дакажаш? Мэдычныя дакумэнты супярэчаць самі сабе, ДАІшныя таксама. Бядома, у нас у краіне ўсюды людзі, і нікому ня трэба тлумачыць, што статыстыка ў нас шмат дзе вялася й вядзецца паводле пляну, а не рэальнасьці. А з гэтага згары кіраванага падлогу ўсё разлажэньне й пачынаецца. Будзеш расьсьледаваць, дакажаш хіба брыдкасьць сыстэмы, у якой усё можна падрабіць, усё перапісаць, быццам тую гісторыю, за ўдумлівае і дзёрзкае дасьледаваньне якой так баяліся Міколы Ермаловіча старыя і новыя ўлады.

Андрэй Дынько

## каляндар

**9 ліпеня 1900 г.** брытанская каралева Вікторыя дала згоду на стварэньне Аўстра-



лійскай фэдэрацыі. Праз паўгады была створаная дзяржава пад назвай Фэдэрацыя Аўстралія, напачатку – дамініён, потым Аўстралія набыла незалежнасьць. Хаця й да сёньняшняга часу дзяржавай намінальна кіруе брытанская каралева і прызначаны ёю генэрал-губэрнатар.

Найвышэйшая кропка Аўстраліі носіць імя Тадэвуша Касьцюшкі. Найбольшая колькасьць эмігрантаў зь Беларусі пасялілася там пасьля 1944 г. – ня менш за дзесяць тысячаў чалавек. Сярод іх былі Алесь Алехнік, Павал Гуз, Міхась Зуй, Уладзімер Клуніцкі, Язэп Малецкі і інш.

**10 ліпеня 1900 г.** у вёсцы Стаўрова Браслаўскага павету нарадзіўся Пётра Сергіевіч, беларускі мастак. Тая вёска – каля маляўнічага возера Богіна. Сын безьзямельных сялянаў, у 1917 г. Сергіевіч апынаецца ў развалюшным Петраградзе, азіраецца навокал і вяртаецца назад да бацькоў на Браслаўшчыну. Прачытаўшы ў «Кур'еры Віленскім» абвестку пра адраджэньне Віленскага ўнівэрсытэту з мастацкім факультэтам, Пётра накіроўваецца ў Вільню і становіцца вучнем Фэрдынанда Рушчыца. Віленскі ўнівэрсытэт быў скончаны ў 1927 г., малады мастак пасьпеў павучыцца і ў Кракаве. Сергіевіч малюе сваякоў, суседзяў, знаёмых, аднавяскоўцаў, ляндшафты Браслаўшчыны. Сяргей Харэўскі аднёс ягоную карціну «Шляхам жыцьця» да 100 найлепшых твораў беларускага мастацтва XX ст. На карціне мужчына зь мехам на плячох і жанчына зь дзіцём крочаць па дарозе кудысь удалячынь. На думку С.Харэўскага, гэта Язэп і Марыя з малым Ісусам, ратуючыся, бягуць у Эгіпэт. Апрача карцінаў, Сергіевіч маляваў абразы і расьпісваў касьцёлы Віленшчыны. Існуе легенда, што Панцеляймон Панамарэнка прапаноўваў мастаку: «Пераяжджай у Беларусь, мы табе касьцёл адчынім». Не паслухаўся Сергіевіч і застаўся ў мілай сэрцу Вільні.



**14 ліпеня 1500 г.** адбылася бітва на рацэ Ведрашы. Вайна Вялікага Княства Літоўскага з Масковіяй, што пачалася ўвесну 1500 г. Баявыя дзеяньні вяліся ўздоўж усёй усходняй дзяржаўнай мяжы. Найвышэйшы гетман ВКЛ Канстанцін Астроскі сабраў блізу 3,5 тысячаў вершнікаў і ў траўні 1500 г. рушыў на ўсход княства – «сьцерагчы межы». Войска Астроскага ў канцы чэрвеня дасягнула Смаленску, у той час як вялікі князь Аляксандар з падмогаю падыходзіў толькі да Менску. Астроскі, падмацаваўшыся смаленцамі на чале са Станіславам Кішкам, рушыў на маскоўскага ваяводу Кошкіна, што стаяў на рацэ Ведрашы ля Дарагабужу. Чатыры тысячы нашых супраць сарака тысячаў маскоўцаў! Але гетман стаяў на сваім – бітва. Мы прайгралі... Як піша Генадзь Сагановіч, пераможцы разбурылі мост праз раку Трасну ў тыле зможаных ды бязьлітасна секлі іх, таптані, тапілі... Загінула абсалютная большасьць ліцьвінаў. Сам князь Астроскі трапіў у палон.

Да бітвы на рацэ Крапіўне, што пад Воршай, заставалася 14 гадоў.

**15 ліпеня 1900 г.** у вёсцы Агароднікі Вялейскага павету (цяпер Пастаўскі раён) нарадзіўся Уладзімер Дубоўка, паэт і перакладчык. Скончыў Новавялейскую настаўніцкую сэмінарыю, паступіў у Вышэйшы літаратурна-мастацкі інстытут імя Валер'я Брусава ў Маскве. Там, у Маскве, Дубоўка і застаўся. Рэдагаваў беларускамоўны варыянт «Весьніка ЦВК, СНК і СПА Саюзу ССР», быў адказным сакратаром пастаяннага прадстаўніцтва БССР пры Ўрадзе СССР, у 1924–27 г. выкладаў беларускую мову ў Камуністычным унівэрсытэце народаў Захаду. Але найбольшую вядомасьць, прынамсі ў Беларусі, прынесьлі Дубоўку вершы. У 1930 г. паэт быў арыштаваны ў справе Саюзу Вызваленьня Беларусі і праз год высланы на пяць гадоў у Яранск, на скрайнюю Поўнач. У 1937 г. яго паўторна арыштавалі і на гэты раз прысудзілі да 10 гадоў пазбаўленьня волі. Па вяртаньні з турмаў Дубоўка прысьвячаў сябе збольшага пісаньню дзіцячых вершаў і апавесьцяў, а таксама перакладам на беларускую мову Шэксьпіра, Байрана, Сыракомлі.



Алег Гардзіенка

# ПАМЯЦІ ЛЯВОНА ТРУСЕВІЧА

Памёр Лявон Трусевіч. У другой палове 40-х гадоў ён —студэнт факультэту дантыстыкі ўнівэрсытэту Марбургу пад Лянам, амэрыканскае зоны Нямеччыны, сябар беларускай студэнцкай грамады ў Марбургу. Стуль я, тады таксама студэнтка Марбурскага ўнівэрсытэту, сяброўка беларускай студэнцкай грамады, мела шчасьце й гонар пазнаць Лявона Трусевіча.

Лявон быў спакойны, сьціплы й ветлівы і ўслужлівы сябра. Быў ён і беларускім патрыётам. Ня дзіва, Лявон – гадунец, яшчэ ў сярэдняй школе ў Навагрудку, такіх выдатных беларускіх настаўнікаў, як сьветлай памяці Аляксандра і Натальлі Орсаў.

У другой палове саракавых гадоў беларускія студэнты Марбургу былі на ўтрыманьні ДП лягераў, а за навуку ўва ўнівэрсытэце плаціць мусілі неяк самі старацца. Аж дзіва даесься цяпер, як мы давалі сабе рады?! Сарганізавалі Студэнцкі Фонд, на які ахвяры давала ахвярнае беларускае грамадзтва, што таксама жыло ў ДП лягерох. І так неяк «цярпелі», вучыліся, бо хацелі вучыцца. У 1947 годзе ў Нямеччыне настала «вэрунг рэформа» грошай, што спрычыніла для студэнтаў яшчэ большыя фінансавыя цяжкасьці. Дзякуючы аднак стараньням Рады БНР, а дакладней, старшыні яе Міколы Абрамчыка, удалося з Ватыкану дастаць беларускім студэнтам стыпэндыі на студыі ў каталіцкім унівэрсытэце Лювэну ў Бэльгіі. І большасьць беларускіх студэнтаў з Марбургу паехала вучыцца ў Лювэн. Лявон ды, дарэчы, і я, што былі на апошнім годзе дантыстыкі, засталіся ў Марбургу. За год, скончыўшы ўнівэрсытэт, я выехала ў ДП лягер ангельскай зоны Нямеччыны, а адтуль пасьля ў Таронта, Канаду.

Лявону Трусевічу наканавана было выехаць у Чыкага, ЗША. Зрэдку мы ліставаліся. Пасьля адбыцьця кантракту ў шпіталі для сухотных хворых я паступіла ў Таронтаўскі ўнівэрсытэт настрыфікаваць свой нямецкі дыплём. На навуку я трохі зарабіла, працуючы клінэрам – мыла ў шпіталі падлогу. Лявон, каб зарабіць грошы на студыі, працаваў у Чыкага на фабрыцы.

Ізноў без стыпэндыяў фінансава было надта цяжка. Ратавалі пазыкі сяброў, такіх жа новых эмігрантаў. За першае паўгодзьдзе за навуку заплаціла. Прыйшло другое, трэба плаціць, і няма чым. Гэта значыць, трачу права на навуку. Сяджу на выкладзе, слухаю прафэсара, а сьлёзы з вачэй спакойна коцяцца па твары... і рады ім ня даць. Ужо ўсе мае сябры ратавалі мяне пазыкамі, застаўся адзін Лявон Трусевіч, які працуе на фабрыцы, каб зарабіць сабе на наступны год на студыі ва ўнівэрсытэце, бо ж і яму трэба настрыфікаваць ягоны нямецкі дыплём. Гэта я дасканала ведаю, але ўсё роўна пішу яму ліст. І Лявон, замест таго, каб сказаць мне, што на другі год сам ідзе ва ўнівэрсытэт, што ня можа дапамагчы, прысылае мне чэк на патрэбную суму.

Такім быў сьветлай памяці Лявон Трусевіч.

Камэнтары непатрэбныя...

На навуку Лявону ўдалося дастаць дзяржаўную стыпэндыю, але із забавязаньнем, што пасьля студыяў будзе працаваць там, куды яго пашлюць. І гэтак сьпярша ён працаваў лекарам-дантыстам у індзейскім рэзэрвацэ, а пасьля, у рангу капітана і вышэйшым – у амэрыканскім войску. Такім чынам ён трапіў у горад Тампу ў Флёрыдзе, дзе яго й застала сьмерць.

У часе дантыстычнай практыкі Лявон пазнаёміўся й ажаніўся з Эвэлінай, дзяўчынай скандынаўскага паходжаньня – нашчадкам «вікінгаў, адважных варагаў».

Памёр Лявон з ранаў, спрычыненых яму агнём нешчасьлівага выпадку. І так на 76-м годзе абарвалася нітка добрага, заўсёды карыснага для іншых Лявонавага жыцьця. Сьпі спакойна, Лявоне. Мы Цябе не забудзем.

Шчырыя мае й беларускіх марбургцаў спачуваньні спадарыні Эвэліне, сыну й дачцэ Трусевічам.

Вечны Табе, Лявоне, спакой і вечная Табе памяць!

Раіса Жук-Грышкевіч

## НОВЫЯ КНІГІ, ДАСЛАНЫЯ Ў РЭДАКЦЫЮ

**М.Гарэцкі. Публіцыстыка 1918-1919 г.** / Укладальнікі В.Селяменеў, В.Скалабан; Навуковы рэдактар М.Мушынскі. — Менск: БелНДІДАС, 2000. — 158 с. — Наклад 100 ас. ISBN 985-6099-64-1

*Упершыню зьмешчаныя публікацыі Максіма Гарэцкага пераважна з смаленскай прэсы 1918—1919 гадоў, падпісаныя рознымі псэўданімамі.*

**Гарэцкія чытаньні:** Матар'ялы спавешчаньняў і паведамленьняў / Дзяржаўны музэй гісторыі беларускае літаратуры; Складальнік Т.Аніскавец. — Менск, 2000. — 94 с. — Наклад 75 ас.

*Тое, што дагэтуль было невядома пра Максіма Гарэцкага й ягоную эпоху, у гэтым зборніку.*

У.Канатуш. **Героі Старога Запавету** / Пераклад з расейскай Ю.Рапецкага. Адказны рэдактар В.Сёмуха. — Менск: «Белпрынт» у Рэспубліцы Беларусі, 1999. — 304 с. — Наклад 3000 ас. ISBN 985-6560-42-X

Аўтар кнігі выкладае свае тлумачэньне найвызначнейшых падзеяў, апісаных у Старым Законе.

В.Грыцкевіч. **Гісторыя й міты.** -- Менск: БелФранс, 2000. -- 205 с. -- Наклад 1000 ас. ISBN 985-6425-13-1

Вядомы пецярбурскі гісторык беларускага паходжаньня Валянцін Грыцкевіч у сваёй працы спрабуе паказаць залежнасьць зьменаў у гістарычнай навуцы й адукацыі ад панoўнай ідэалёгіі на канкрэтных прыкладах, галоўным чынам з гісторыі СССР. Дзеля набыцьця кнігі зьвяртайцеся ў сядзібу ТБМ у Менску (Менск, Румянцава 13).

С.Харэўскі. **Зьвяры-суайчыньнікі** / Аўтар прадмовы Ў.Арлоў. -- Менск: Наша Ніва, 2000. -- 92 с.

Кніжыца прысьвечана жывё-

# МАМАБУК З МАЛАДЭЧНА

Нядаўна пазваніла знаёмая тэатралка, каб падзяліцца сваёю радасьцю ад чарговай скандальнай прэм'еры на «Вольнай сцэне», што адбылася дваццаць дзявятага чэрвеня. Казала, што я шмат чаго згубіў, не пабачыўшы новую пастаноўку Валерыя Мазынскага «Прынц Мамабук» паводле новай п'есы Аляксея Дударава. Што яна даўно так не сьмяялася, што ў пастаноўцы безьліч падколаў пра сёньняшнюю ўладу і, самае цікавае, што я наўрад ці ўжо пабачу гэты спэктакаль. Мінкульт забараніў апальнаму тэатру граць новую пастаноўку. Аргумэнтаваўшы сваё рашэньне тым, што дзяржава на гэткае відовішча ні капейкі не дала, сродкі тэатар знайшоў сам, вось хай сам і грае камэдыю дзе заўгодна, толькі не на дзяржаўнай сцэне.

Вось чаму, убачыўшы знаёмую назву на афішы Маладачанскага тэатру, які прывез падзівіць сталіцу менавіта гэтым спэктаклем, я ахвяраваў джазавым вечарам памяці Армстранга і падаўся ў ДК МТЗ. Дачасна пагадзіўшыся з самадзейным узроўнем заштатных артыстаў і спадзеючыся толькі на тое, што спэктакаль не адменяць з-за нецікавасьці сталічнай публікі да трактаразаводзкіх падмосткаў. Зрэшты, тым больш прыемна было асудзіць сябе за неабгрунтаваны сталічны снабізм.

Маладачанцы парадавалі якраз прафэсіяналізмам і жывым сцэнічным куражом, безь якога ніякія камэдыі ня сьмешныя. Думаю, ніводзін глядач, а іх у немалой залі сабралася шмат больш за палову, не застаўся расчараваны дудараўскай пародыяй на кандовы тэлесэрыял.

У рэспубліку Бусярось з афіцыйным візытам з афрыканскага каралеўства (чорт пабірай, забыўся назву... Ну, напрыклад, Драбадан) прыбывае ягоны кароль Мамабук Першы. Сустракаць высокага афрыканскага госьця й махаць драбаданаўскім зялёна-чырвоным сьцягам клічуць бусяросца Калюню. Але Калюня нават не здагадваецца, чыя кроў цячэ ў ягоных жылах, і чый сьцяг за абяцаную ўладамі выпіўку ён нядбайна ўзяў у рукі. Аказваецца, ягоная маці, што сёньня прадае бананы, а яшчэ нядаўна была настаўніцай, дваццаць адзін год таму назад была ў камандыроўцы ў далёкім Драбадане. Дзе вучыла маленькіх драбаданцаў геаграфіі. І закахаўся ў яе адзін вучань... Зрэшты, ня буду пераказваць звышзахапляльны сюжэт. Скажу толькі адно — падчас антракту права пакінуць залю не скарыстаў ніводзін глядач. Дарэчы, асноўную частку публікі складала моладзь. Якая бурна рэагавала на некаторыя рэплікі, датычныя адзінага прыдуркаватага пэрсанажа ўсёй п'есы, які так ні разу й не паказаўся — Галоўнага Старшыні Рэспублікі Бусярось.

Пара прыблізных дыялёгаў. Кароль Мамабук, прачынаючыся ў сваім пасольстве, пытацца ў пасла: «А нашто я сюды прыляцеў?» Той: «Міждзяржаўны дагавор аб дружбе падпісваць». «А ён нам патрэбны?» «Не». «А ім?» «Не». «Дык нашто мы прыехалі?» «А да іх суседзі езьдзіць ня хочуць». «А Старшыня, можа, разумее па-драбаданску?» «Да Вы што! Ён і сваёй мовы ня ведае».

Але быў у залі сярод задаволенай публікі адзін самы ўдзячны глядач. Ён сядзеў якраз за мною, і сваім заразьлівым сьмехам ствараў для мяне стэрэаэфэкт дзеі. Гэта быў аўтар п'есы, сам Аляксей Ануфрыевіч Дудараў. Геніяльны кан'юнктуршчык, у добрым сэнсе гэтага слова, ён добра ўгадвае — які тэатар калі патрэбны. Вітаўтавага нашчадка мы ў 96-м не дачакаліся, настаў зорны час для Мамабука. І дарэмна, здаецца мне, наракае на родны Мінкульт рэжысэр Мазынскі. Нават у эпоху ўсеагульнай кампутарызацыі ды Інтэрнэту гэтая кантора ня можа існаваць без апальнага раздражняльніка. Ім дазарэзу патрэбная «Таганка». Выбар паў на «Вольную сцэну». Беларускамоўныя, маладыя, хуліганістыя. А тое, што пастаноўку Мазынскага мы ўсё ж пабачым увосень, я не сумняваюся. Таганку ж трэба ўвесь час за нешта цкаваць, прымушаць нешта дапрацоўваць, шукаць у тэксьце крамолы. Таму будзем чакаць сустрэчы зь менскім Мамабукам.

**Глядач**

дыскаграфія

## Я ДЗЕВАЧКА З ПЛЭЕРАМ...

**«Нам с тобою было super».** Група **«Леприконсы».** (р) «Союз», 2000.




Вось калі б мне зараз было гадочкаў з чатырнаццаць-пятнаццаць, і быў бы я да таго ж дзяўчынкай, і калі б я выкінула ўсе свае тамагочы, і бегала б у школку на дыскатэкі, калі б мне маці падарыла аўдыёплэер і не забылася пры гэтым растлумачыць, скуль насамрэч дзеці бяруцца, тады б я напэўна набыла гэты альбом і была б шчасьлівая роўна ў той самай ступені, калі бачу настаўніка гісторыі (фізкультуры, астраноміі), у якога, як і ўсе дзяўчынкі клясы, я безнадзейна закаханая...

Тады б і Ільля Міцько быў бы маім ідалам. Я б клеіла на сьценкі ягоныя каляровыя адбіткі. Трызьніла б ім па начох і не зьвяртала ўвагі на недарэчныя жэсты маці. Ну, што з таго, што яна круціць пальцам ля скроні?! Усё адно: *Леприконсы* – гэта супэр! Не – Super!

Мяне не калыша, што ў Багдановіча вершы, а Агінскі – кампазытар. Агінскі даўно памёр. А Ільля – вось ён, Super! І ўсе іншыя *Леприконсы* – адвальныя хлопцы. Што, Агінскага па тэлевізары паказвалі? А гэтых – ці не штодня! Ім усяго толькі крышачку больш гадоў чым мне, а яны ўжо добра ведаюць, скуль дзеткі бяруцца: пакатаў тую разы з два на «Халі-галі» – і маеш наступствы: вакуум.

А што той вакуум? Усяго толькі клопату, каб маці з кляснай не дазналіся... Сплюнуў – і гатова! Зноў слухаўкі пачапіла, і на ўрок алгебры. Супэр! І няхай матэматычка злосная, як паратрупэр, – яна ўсяго толькі стомленая жыцьцём ды нявыплатай заробку жанчына. А я вось маладая ды поўная сілаў. Зэмфіра – мой Бэтховэн. *Леприконсы* – музыка майго руху. Розуму – таксама.

Праўда, сястра старэйшая кажа, што зь ёй тое самае некалі было. Толькі не Міцько, а Дытэр Болен нейкі. А цяпер сястра з двума дзеткамі на руках, маленькай зарплатай, бяз мужа і кватэры. Уся поп-музыка яе – гімн БССР а шостай раніцы. Слухае яго і шэпча сабе пад нос. Ну, і няхай сабе! А я, між тым, у навушніках, як у прэзэрватыве, адцягваюся. Я ж зь іхнага пакаленьня, зь Леприконсов.

Цяперака ж усе слухаюць выключна «Лепразорцаў» і іх альбом «Я з табой удавіўся гот-здохам». Між іншым, кампазытарам у той групе – сын Ільлі Міцько. Яму ўсяго толькі дзевяць, а які ён ужо таленавіты, які сэксі!»

Дарэчы. а хто такія лепрыконсы?

**Ле-прыкончаны СЛУХАЧ**

## АЛЕСЯ І КАСТУСЬ

«Александра и Константин». (р) 2000. Дэманстрацыйны CD.



Як вы наконт таго, што ў Барысаве любяць пасьпяваць папулярныя джазавыя мэлёдыі? Я дык асабіста ня супраць, калі кавэр-вэрсія джазавага гіту Dream a Little Dream Of Me робіцца адметна, ненавязьліва ды з густам. Асаблівасьць жа выкананьня ў тым, што ўвогуле біг-бэндавы шлягер увасоблены толькі голасам Аляксандры Кірсанавай ды гітарай Канстанціна Драпезы. Гэткі камэрны джазік – тонкі і інтэлігентны.

Упершыню гэты дуэт засьвяціўся ў Менску, бадай, гады з тры таму на адной вечарыне ў блюзавым «Стар-клюбе». Спадабаліся барысаўцы адразу: Аляксандра мае моцны, фірмовы голас, сьпявае свабодна, бяз звыклага эстраднага віску, вельмі добра «здымаючы» заходнія шлягеры кантры, блюзу ды наагул папулярнае музыкі. Да таго ж мае выгляд такой мініятурнай Долі Партан. Канстанцін жа – умелы работнік, ашчадны акампаніятар. І хоць «здымаць» заходнія гіты апошнім часам добра налаўчыліся многія (няхай іншыя мовяць – зоркі), Аляксандра валодае здольнасьцю прыўносіць у іх уласную манеру, робячы чужыя творы ледзь ня ўласным здабыткам.

Запісы на гэтым дыску з тэхнічнага боку ня вельмі ўдалыя. Але сёлета, пераканаўча выступіўшы ў Магілёве ў фінале тэлевізійнай «Зорнай ростані», барысаўцы атрымалі ці не найбольш каштоўны прыз – не тэлевізар «Віцязь», а паўнавартасныя 100 гадзінаў працы ў студыі гуказапісу Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі. Гэта значыць, мы атрымаем магчымасьць дачакацца сёлета іхнага сапраўднага дэбютнага альбому.

Гэтае ж дэма адметнае перш за ўсё вельмі цікавай вэрсіяй старадаўняга беларускага напеву «Ой, арол, ты арол...» Калі вяртацца да альбому «Новая альтэрнатыва», дык гэтая песьня была б там вельмі дарэчы, дзякуючы арыгінальнаму аранжаваньню, адметнай манеры выкананьня і дзівоснай перадачы глыбіннага ўнутранага зьместу напеву. Праз гэта дуэт «Александра и Константин» па духу становіцца недзе побач з этна-трыо «Тройца».

Дай Бог, каб ім плённа «капалася» і надалей менавіта на гэтых музычных сотках. Бо прасторы штата Арызона ўзараныя даўно і глыбока, а на нашых жа «няўдобіцах» яшчэ можна зьняць неблагія ўраджаі. Даеш беларускае кантры бяз скідак на неспрыяльныя атмасфэрныя ўмовы!

**Арліны СЛУХАЧ**

## НЕАХАЙНЫ СЬЦЁБ

**«Уваход вольны».** Група **«Цмокі».** (р) 2000.




Назва альбому – гжэчная такая. Маўляў, заходзь сюды кожны, калі маеш на тое ахвоту. Ну, зайшоў... Потым доўга выйсьце шукаў. Думаў, што пісаць: прыязныя пажаданьні ці праўду? Вырашыў паспрабаваць злучыць адно з другім.

**Праўда.** Калі гэты альбом – дэманстрацыйны (пра тое, прынамсі, гавораць шэраг фактараў), дык навошта ён такі працяглы ў гучаньні? Хапіла б двух-трох опусаў, каб атрымаць поўнае ўяўленьне пра тых «Цмокаў». А атрымалася ўяўленьне такое: цудоўная мастацкая самадзейнасьць. Адно ў песьні «Цягнікі» адчуваецца спроба зрабіць нешта прадуманае. Рэшта ж песенек – неахайныя, безаблічныя прыпеўкі пад акампанэмэнт нібыта рок-гітараў. Прашу зразумець мяне правільна: статус дэбютанта ніяк не зьяўляецца абароннай ад крытыкі. Паабцершыся на тусоўках, зьведаўшы «Басовішча», але пры гэтым аніяк ня ўзьняўшы ўзроўню, учорашнія дэбютанты надзвычай хутка пачынаюць уяўляць сябе мэтрамі. І тады іх ужо не зачапі! Адразу ж стануць лісты пісаць у музычныя ці проста савецкія газэты, морды біць гатовыя. То не пра «Цмокаў», зразумела. Пакуль. А я вось што скажу: калі ты мэтар ці хоць бы паўмэтра, дык выканай пераканаўча нешта накшталт беларускага рок-стандарту «Цмок он зэ ўотэр» – і тады памяркуем, на што ты здольны як рок-музыка, ці маеш права пісаць уласныя песьні, ня горшыя за тыя стандарты.

На жаль, «Цмокам» тое пакуль яўна не пагражае. І не таму толькі, што яны дэбютанты і яшчэ недастаткова абазнаныя ў прафэсіі. І не таму, што вакаліст часта элемэнтарна не выпявае належнага – Крыс дэ Бург, напрыклад, на канцэртах, кажуць, таксама сьпявае нячыста. Але дэ Бург мае ідэю, няхай і саладжавую, бярэ ёю. а не майстэрствам сьпеваў. Вось тут і мушу перайсьці да другога пункту праграмы.

**Прыязныя пажаданьні:** калі маеш жаданьне замацавацца на рынку з уласным мастацтвам, перш чым хапацца за гітару ды ляцець у студыю, падумай, што ты хочаш зрабіць. У «Цмокаў» ідэя ёсьць, але, такое ўражаньне, удзельнікі групы яе не адчуваюць самі. Мне падалося, што яны спрабуюць стварыць гэткі вясковы сьцёб. Напачатку я быў падумаў: вёска – гэта камэрцыйна безнадзейны праект. Бо вёскі ў нас ня любяць. Гарадзкая тэматыка – рэч прынцыпова іншая і спраўджаная яшчэ «Ляпісамі». Зь іншага боку, калі б «Цмокі» паставілі сабе мэту зрабіцца гэткімі вясковымі «Леприконсами», іх напэўна чакаў бы плён. Камэрцыйны, дарэчы, таксама. Для гэтага «Цмокі» мусяць кінуць спробы жартаваць, бо жарты ўсё адно ня надта атрымліваюцца, а сьпяваць згодна з прынцыпам «што бачу», рэзка спрасьціць аранжаваньні, злагодзіць гук, пры гэтым максымальна адгабляваўшы яго да ўзроўню твораў музыкі, якія можна прадаць. Бо іграць неахайна – проста. Іграць жа проста – надзвычай складана. Імітаваньне даступнасьці таго, што ты робіш, прымітыву – справа тонкая, якая вымагае не абы-якога майстэрства. «Леприконсы», дарэчы, ня прыклад: іх прымітывізм неасэнсаваны, ён прыродны, а таму майстрамі ім зрабіцца будзе вельмі няпроста.

Зыходзячы з уласнае назвы, «Цмокі», сустрэўшы дасьведчанага, разумнага прад'юсэра, могуць паспрабаваць заняць уласную палічку і зарабіць: на кішэню і аўтарытэт адначасова. А для гэтага трэба вучыцца, вучыцца ды вучыцца, як завяшчаў нам адзін вялікі Цмок. Як тое ні банальна гучыць...

Дзякуй, я скончыў.

(Гэтыя нататкі – фрагмэнт лекцыі аўтара «Уплыў ідэалёгіі нелегітымнае ўлады на прагрэсіўны рокавы ля-мінор», прачытанай у Вышэйшай музычнай вучэльні Бэрклі-скул сёлета ўвесну).

**ЦМУКАЧ, магістар**

лам -- гэткім самым сымбалям кожнае краіны, як герб, сьцяг і гімн. Адметнасьцяй выданьня ёсьць аповеды пра малавядомых беларускіх жывёл, што значна дапаўняе нашы веды пра нашу Бацькаўшчыну ня толькі як пра краіну зуброў. Бальшыня нарысаў друкавалася ў адноўленай «Нашае Нівы» ў першыя гады яе існаваньня .

**На шляхах да ўзаемаразуменьня**: Навуковы зборнік / Рэдакцыйная калегія: А.Мальдзіс (галоўны рэдактар) ды інш. — Менск: «Беларускі кнігазбор», 2000. — 356 с. — (Беларусіка = Albaruthenica; кніга 15). — Наклад 500 ас. ISBN 985-6318-81-5

Зборнік складаецца з матар'ялаў трох міжнародных навуковых сустрэчаў, асноўнаю тэмаю якіх было грамадзка-культурнае ўзаемадзеяньне Беларусі й суседніх краін. У першы разьдзел увайшлі спавешчаньні, прачытаныя на беларуска-польскім форуме, другі прысьвечаны асобе й спадчыне Мікалая Радзівіла Сіроткі, трэці — Браніславу Эпімаху-Шыпілу. Матар'ялы зьмешчаны ў беларускай, польскай і расейскай мовах.

**Спадчына. № 2, 2000.** — Менск, 2000. — 224 с., іл. — Наклад 1814 ас. ISSN 0236-1019

Сярод найцікавейшых матар'ялаў апошняга нумару «Спадчыны» — артыкул Рыгора Максімовіча «Як беларускі Менск стаўся «Мінскам»», дакумэнты часоў нацыянальнага адраджэньня пачатку XX ст. ды новыя дасьледзіны з гісторыі шляхецкіх радаводаў і краязнаўства.

З.Санюк. **Эстэтыка творчасьці Янкі Купалы** / Навуковы рэдактар В.Салееў. — Менск: «Беларускі кнігазбор», 2000. — 212 с. — Наклад 300 ас. ISBN 985-6318-85-8

**Агляд падрыхтаваў Віктар Мухін**

# ВЕРШЫ, НАПІСАНЫЯ ДА ПОЛАЦКАЙ ВЫСТАВЫ ГАБЭЛЕНУ ТАЦЯНЫ КОЗІК «ПТУШЫНЫ РАЙ»

Алесь Аркуш

### Птушыны рай

*Птушыны рай — як пылок на крылах мятліка.*
*Птушыны рай — кліп на песьні анёлаў.*
*Птушыны рай — апошні прыстанак.*

* * *

*Хто бачыў могілкі птушыныя?*
*Мільёны дробненькіх грудкоў.*
*А можа ў хвалях мора сіняга*
*Хаваюць іх, як маракоў?*

*Дзень-ноч мільгаюць неўтаймоўныя,*
*Шляхоў пункціры неба ткуць.*
*Лятаць – вось самае галоўнае!*
*Няма калі спачыць-заснуць!*

* * *

*Над лесам птушкі праляцелі.*
*Яны пасьпець кудысь хацелі.*
*У кожнай ёсьць душа і цела.*
*І цела за душой ляцела.*

* * *

*Ляцець ад відна да відна.*
*Крылом дакрануцца крыла.*

*Прамкнуць праз магічнае шкло.*
*Крылом падтрымаці крыло.*

*Ніякіх хвальшывых дылем.*
*Заўсёды на пругкім крыле.*

* * *

*Слава тым, хто трымае гняздо,*
*Хто ўнікае зязюльчынай долі,*
*Хто з галінак складае свой дом,*
*Хто ня схібіць у справах ніколі.*

*Гэты мудры, стары запавет*
*З малаком мы ўсмакталі аднойчы.*
*І на гэтым стаяцьме наш сьвет.*
*І глядзець нам ня сорамна ў вочы.*

### Замкнёная прастора

*Вітраж з восеньскай лістоты*
*прапускае сьвятло толькі патрэбнага колеру:*
*жоўтае й чырвонае*
*чырвонае й жоўтае*
*але йдзе час*
*і чым менш застаецца ў восені дзён*
*тым больш цьмянеюць шклінкі-лісьце*
*тым больш яны пакрываюцца пылам-шэраньню*
*тым хутчэй паміраe знаёмы малюнак*
*і калі, здаецца, наўкол вось-вось павінна*
*усталявацца цемра*
*праз голую раму на голую зямлю*
*абрыньваецца сьляпучае сьвятло*
*і ты зноў пачынаеш марыць*
*пра жоўта-чырвоны вітраж*
*пра сваю замкнёную прастору*

* * *

*За хмызамі, за лясамі,*
*Між балотаў і лугоў*
*Рай птушыны захаваны*
*Ад хвароб і ганчакоў.*

*Там ня думаюць пра крыўды,*
*Там ня клянчуць медзякі,*
*Там не падразаюць крылы*
*І ня мнуць слабым бакі.*

*Вы спытаеце, напэўна:*
*Як патрапіць ў гэты рай?*
*Вам жаўрук адкажа сьпевам.*
*Вам пакажа шлях ручай.*

### Дзіцячы вершык

*Чыж*
*аблюбаваў Парыж.*
*Шпак*
*марыць пра Ірак.*
*Журавель*
*паляцеў у Брусэль.*
*Варона*
*сьцягнула карону*
*з ангельскага трону.*
*Бугай –*
*сэпаратыст,*
*ён аб'явіў непадлеглым*
*свой балацяны край.*
*Верабей,*
*каб далей ад радыяцыі,*
*эміграваў у Бамбэй.*
*Гіль –*
*у Ізраіль.*
*Сарока –*
*у Марока.*
*Дзяцел –*
*наадварот,*
*ён патрыёт,*
*любіць Нарач і Мядзел.*
*А гусь —*
*ведама, тутэйшая,*
*гаворыць уголас: Расея,*
*а ў думках гучыць — Беларусь.*



# 7 ЛІПЕНЯ Ў ПОЛАЦКУ ШУКАЛІ ЛУГАВЫЯ КВЕТКІ

Такога адкрыцьця мастацкай выставы Полацкі музэй беларускага кнігадрукаваньня яшчэ ня бачыў. Мясцовая габэленшчыца Тацяна Козік, прызначыўшы прэзэнтацыю свайго ўласнага вэрнісажу на 7 ліпеня, рызыкавала. У гэты дзень у суседнім Віцебску «Славянскі базар» дасягнуў свайго апагею. Палачане маглі праігнараваць «Птушыны рай» (так называецца выстава габэлену мастачкі) і выбраць «базар».

Пэсымістычныя прагнозы ня спраўдзіліся. Людзей на адкрыцьцё выставы прыйшло шмат. Прычым ня толькі мастакі й сябры габэленшчыцы, але й мясцовыя бізнэсоўцы й нават прадстаўнікі кіраўніцтва гораду, якія ня вельмі часта наведваюць падобныя зборкі. А незвычайнасьць адкрыцьця была ў тым, што арганізатары падрыхтавалі сапраўднае шоў, у якім «цьвіком» стаўся выступ полацкага мадэльнага агенцтва «Сафія». Нягледзячы на тое, што «Сафія» сярод іншых аўтарытэтных беларускіх агенцтваў была задзейнічаная ў «Славянскім базары», пяць яе лепшых мадэлек (адна зь іх толькі што вярнулася з Эміратаў) засталіся ў Полацку дзеля «Птушынага раю». У прэзэнтацыі таксама ўзялі ўдзел тры мадэльеры з сваімі калекцыямі – Ірына Брусьнікіна (Наваполацак), Ірына Прахарэнка і Іаланта Шведава (абедзьве зь Віцебску). Брусьнікіна адмыслова да гэтай акцыі падрыхтавала новую калекцыю «Крылы колеру льну». Эксклюзіўныя сукенкі яна вырабіла й для мастачкі, і для мастацтвазнаўцы Галіны Рабянковай, якая вяла прэзэнтацыю. Прахарэнка й Шведава паказалі таксама свае найноўшыя калекцыі, зь імі яны сёлета сталіся фіналісткамі маскоўскага конкурсу «Новы вобраз XXI ст.».

Падчас прэзэнтацыі гучалі й вершы, іх дэкламавалі полацкія паэты Лера Сом, Ірына Дарафейчук і Алесь Аркуш. Паэзію на выставе можна чытаць і на сьценах побач з габэленамі, мастачка выкарыстала тэксты вершаў у рабоце. Сярод любімых паэтаў яна называе беластоцкую паэтку Надзею Артымовіч. Сур'ёзна падрыхтавалася да свайго вэрнісажу й сама Тацяна. Чатыры вялікія габэлены выстаўляліся ўпершыню. Не абмінулі гэтую падзею й мясцовыя СМІ – прэзэнтацыю здымалі адразу дзьве полацкія й адна наваполацкая тэлестудыі. Ведаючы тое, што мастачка любіць лугавыя кветкі, сам дырэктар Полацкага гісторыка-культурнага запаведніка Мікалай Ільніцкі зьбіраў краскі ў ваколіцах Полацку. А наваполацкі мастак Ігар Куржалаў прыйшоў на адкрыцьцё з цэлым снапом рамонкаў, ці то 188, ці то 189 кветак – напамінак пра купальскае раўнадзенства.

**Васіль Кроква**



### Блыха

Курт Тухольскі

У правінцыі дэю Гар — абсалютна правільна, там, дзе знаходзяцца Нім і Пон-дзю-Гар, у Паўднёвай Францыі — там у паштовым бюро сядзела за службу адна надта сталага веку дзеўка. Мела яна дрэнную звычку — адчыняла крыху лісты і чытала іх сабе. Гэта ведаў увесь сьвет. Але, як гэта вядзецца ў Францыі, кансьержка, тэлефон і пошта — гэта сьвятыя ўстановы, іх можна ўжо неяк там трохі зачапіць, але надта чапляць іх нельга, і гэтага ня робіць аніхто.

Такім чынам, векавуха чытала лісты і сваёй нясьціпласьцю прыносіла людзям такія-сякія турботы.

У правінцыі дэю Гар у прыгожым замку жыў адзін разумны граф. Графы ў Францыі іншым разам бываюць разумныя. І гэты граф зрабіў аднаго дня наступнае: ён запрасіў да сябе ў замак судовага выканаўцу і ягонай прысутнасьці напісаў да свайго сябра наступны ліст:

«Дарагі сябра!

З тае прычыны, што, як я ведаю, паштовая служка Эмілі Дзюпон увесь час адчыняе нашыя лісты і чытае, бо аж лопае ад цікаўнасьці, я далучаю да гэтага тэксту, каб пакласьці канец выхадкам азначанай асобы, жывую блыху.

З шматлікімі зычлівымі прывітаньнямі,

граф Кокс».

І ён заклеіў гэты ліст у прысутнасьці судовага выканаўцы. Але, акрамя гэтай цыдулкі, не паклаў у канвэрт нічога. Калі ліст быў атрыманы, у ім сядзела блыха.

### Выпадзеньне ў цяперашні час

Эрнст Блох

На гэтае «тут і цяпер» можна выйсьці найдзіўным чынам, яно ніколі не бывае ад нас далёка. Ведаю я адну кароткую, амаль прымітыўную ўсходнежыдоўскую прыпавесьць, у якой адно што канец дык вось неяк расчароўвае. Яе канец — гэта, пэўна, досьціп, даволі каструбаваты і цьмяны, невясёлы, але ўсё ж такі досьціп, сэнс якога ў тым, каб засыпаць яму, у якую вы ўпалі. Яма — гэта наш ЦЯПЕРАШНІ ЧАС, у якім мы ўсе знаходзімся і ад якога ня збавіцца з дапамогай аповедаў, хоць гэтак якраз і спрабуюць найчасьцей ратавацца.

Навучаньне і працяглыя дыспуты стамілі ўсіх жыдоў у местачковай сынагозе, і яны ўзяліся абмяркоўваць, што кожны зь іх зажадаў бы сабе, калі б зьявіўся анёл. Рабі сказаў, што яго задаволіла б ужо адно, каб анёл дапамог яму пазбыцца свайго кашлю. А я папрасіў бы, сказаў другі, каб мая дачка ажанілася. А я, усклікнуў трэці, не схацеў бы зусім аніякіх дачок, а папрасіў бы сына, які ўзяў бы ў спадчыну мой інтэрас. Нарэшце рабі зьвярнуўся да жабрака, які прыбіўся да кагалу ўчора ўвечары і сядзеў цяпер, занядбаны, ў рызманах, на апошняй лаўцы. «Што б пажадаў ты сабе, мой дарагі? Богу скаргу скласьці варта, што не выглядаеш ты на чалавека без жаданьняў». — «Я хацеў бы, — азваўся жабрак, — каб я быў магутным каралём і каб у мяне была вялікая краіна. Каб я ў

# ВЯЛІКІ ВЯЗЕНЬ

Сямён Букчын
***Варшава***



У Нэапалі памёр вялікі польскі пісьменьнік Густаў Герлінг-Грудзінскі

«Мая біяграфія — гэта сымбаль дваццатага веку. Жыў у праклятым таталітарным стагодзьдзі, якое, спадзяюся, ужо скончылася. Таталітарызм, гітлерызм, фашызм, саветызм і камунізм — вось грамадзкія сыстэмы, у якіх увасобілася зло, якое пануе паміж людзей».

Так напісаў пра час, у якім яму давялося жыць, знакаміты польскі празаік, эсэіст, заўзяты спрачальнік і выкрывальнік Густаў Герлінг-Грудзінскі, які памёр у Італіі на 82-м годзе жыцьця. Герлінг быў незвычайнай асобай — гэта прызнаюць нават тыя, хто яго граміў у сваіх артыкулах і інтэрвію аж да апошніх дзён ягонага жыцьця.

Уражвае біяграфія Герлінга. Ён нарадзіўся ў Кельцах у габрэйскай сям'і, што, як адзначаюць у гэтыя дні мэмуарысты і аўтары нэкралёгаў, зьяўляецца малавядомым фактам. Герлінг не вырракаўся сваіх бацькоў і не хаваў свайго паходжаньня. Але ён быў польскім пісьменьнікам і ўсё жыцьцё дбаў толькі пра Польшчу. Студэнт-паляніст Варшаўскага ўнівэрсытэту, Герлінг у канцы 30-х гадоў увесь аддаецца літаратурнай дзейнасьці, публікуе артыкулы, эсэ. Зь першых дзён вайны і прыходу немцаў ён заняты канспірацыйнай працай, выдае бюлетэнь «Польскага народнага руху



# КАРОТКІЯ АПАВЯДАНЬНІ

кожным горадзе меў палац і каб у найпрыгажэйшым горадзе была ў мяне рэзыдэнцыя з оніксу, сандалу і мармуру. Там я сядзеў бы на троне, мае ворагі трымцелі б ад страху перад мной, а мой народ любіў бы мяне, як калісь караля Саламона. Але ў вайне ня меў бы я шчасьця, што меў Саламон; у краіну ўрываецца вораг, маё войска церпіць паразу, а ўсе гарады і лясы сплываюць полымем. Вораг ужо стаіць перад маёй рэзыдэнцыяй, я чую крыкі панікі на вуліцах і сяджу ў троннай залі сам адзін, з каронай, скіпэтрам, у пурпуровай мантыі з гарнастаевым рантам, пакінуты ўсімі дастойнікамі, і чую, як народ патрабуе маёй крыві. Тут я распранаюся да сподняга і скідваю зь сябе ўсё прыгоства, саскокваю праз вакно на двор. Іду праз горад, тлумам, потым вольным полем і бягу, бягу праз спустошаную маю краіну, бягу дзеля ўласнага выратаваньня. Дзесяць дзён бягу да мяжы, дзе мяне ніхто ня ведае, і пераходжу на гэты бок, да другіх людзей, якія нічога пра мяне ня ведаюць, нічога ад мяне ня хочуць, — і вось я выратаваны, і з учорашняга вечара я сяджу тут». — Доўжыцца паўза, адчуваецца шок, жабрак ускочыў, рабі глядзіць на яго. «Мушу сказаць, — прамовіў павольна рабі, — мушу сказаць, што ты дзіўны чалавек. Навошта ты жадаеш сабе гэтага ўсяго, — жадаеш, каб страціць? Што табе тады ад твайго багацьця і ўсёй прыгажосьці?» — «Рабі, — адказаў жабрак, сядаючы, — нешта мне ўсё ж засталося б. Споднее». Тут жыды пачалі сьмяяцца, круціць галовамі, падаравалі жабраку споднюю кашулю і так вось зьнялі няёмкасьць ад гэтага дзіўнага цяперашняга часу ў якасьці канца пажаданьня альбо канца пажаданьня ў якасьці цяперашняга часу ў фразе «з учорашняга вечара я сяджу тут», ад гэтага прарыву быцьця тут, пасярод мрояў. У моўным афармленьні гэта выглядала як раптоўны пераход ад пажадальнага ладу, у якім ён пачынае, праз умоўны і абвесны лад і, раптам, да цяперашняга часу. Слухачу крыху казыча мароз па сьпіне, калі ён апынаецца там, дзе ён ёсьць. Такі інтэрас не наважыцца ўзяць у спадчыну ніводзін сын.



## Сьнег у Халме

Ісак Башэвіс ЗЫНГЕР

Холм быў вёскай, поўнай дурняў, маладых і старых. Аднэй начы адзін запрыкмеціў, як месяц адбіваецца ў бочцы з вадой. Усе падумалі, што ён туды ўпаў. Бочку моцна замкнулі, каб месяц ня мог адтуль вызваліцца. Калі наступным ранкам бочку адчынілі, месяца там больш не было. Вяскоўцы былі перакананыя, што яго скралі. Яны выклікалі паліцыю, а калі тая не змагла знайсьці злодзея, дык яны плакалі й лямантавалі.

Самымі слыннымі з холмскіх дурняў былі сямёра старэйшынаў. Яны былі найстарэйшымі й найдурнейшымі ў вёсцы, таму вёскай і кіравалі. У іх былі белыя бароды і ад няспыннага роздуму зусім высокія лбы. Аднойчы, дзесьці пад ханукy, бесьперапынку ішоў сьнег. Сьнег пакрыў Холм, як срэбны абрус. Сьвяціў месяц, мігцелі зоры, і сьнег іскрыўся, бы пэрліны і дыямэнты. Старэйшыны ў гэты вечар сядзелі, задумаўшыся, наморшчыўшы лбы. Вёсцы тэрмінова патрэбныя былі грошы, а яны ня ведалі, адкуль іх узяць. Раптам Гронэм Старцы Дурань, ён жа найстарэйшы з усіх, усклікнуў:

«Сьнег — гэта срэбра!»

«Я бачу ў сьнезе пэрліны!» — усьцешыўся другі.

«А я бачу дыямэнты!» — гукнуў трэці.

Старэйшынам вёскі стала зразумела, што зь неба ўпаў скарб. Але тут іншы клопат. Халмчакі падахвоціліся хадзіць па вуліцы, і напэўна скарб хутка быў бы растаптаны. Што тут можна было парадзіць?

Дурному Тодару прыйшла ў галаву думка.

«Давайце пашлем вестуна, які будзе стукаць ува ўсе вокны і казаць людзям, каб яны заставаліся дома, пакуль мы не пазьбіраем усё срэбра, пэрліны і дыямэнты».

Нейкую хвіліну старэйшыны сядзелі задаволеныя. Яны аж рукі цёрлі ад захапленьня. Але тут Лекіш Прыдурак заклапочана ўсклікнуў: «Дык жа кур'ер сам будзе таптаць скарб!»

Старэйшыны прызналі за ім рацыю. Напружана моршчылі яны свае высокія лбы ў пошуках вырашэньня праблемы.

«Знаю!» — выгукнуў Шмэрль Вол,

«Ну, то кажы ўжо», — папрасілі старэйшыны.

«Кур'еру нельга ісьці пёхам. Трэба несьці яго на стале, каб ягоныя ногі не датыкаліся да каштоўнага сьнегу».

Усе былі ў захапленьні ад рашэньня, прапанаванага Шмэрлем Волам. Старэйшыны пляскалі ў ладкі і нахвальвалі сваю ўласную мудрасьць.

Адразу распарадзіліся паклікаць Прастака-на-Пабягушках, хлопчыка з кухні, і паставіць яго на стол. Але каму несьці гэты стол? На шчасьце, у кухні былі на той час Дурлей Кухар, Міхалап Абіральшчык Бульбы, Драч Мяшальнік Салаты і Гонтэль, які меў забясьпечваць кагальную кухню правізіяй. Усім чатыром было загадана падняць стол, на якім стаяў Прастак. У руцэ той трымаў кіянку, каб стукаць людзям у шыбы. Так усё гэта пачалося. Прастак лупіў у кожнае вакно калатушкай і крычаў: «Сёньня ўначы нікому нельга выходзіць з дому! Зь неба ўпаў скарб, і таптаць яго забаронена!»

Халмчакі паслухаліся сваіх старэйшынаў і ўсю ноч не выходзілі на двор. Між тым старэйшыны вёскі сядзелі і маракавалі і так, і так, што можна было б зрабіць з скарбу, пасьля таго як яго пазьбіраюць.

Дурны Тодар прапанаваў прадаць яго і набыць гуся, які нясе залатыя яйкі. Такім чынам грамада магла б займець сталую крыніцу даходу. У Лекіша Прыдурка была другая ідэя. Ці можна было б купіць акуляры, якія ўсё павялічваюць? Тады дамы, вуліцы і крамы выглядалі б большымі. Ясная рэч, калі Холм выглядаў бы большым, дык ён і быў бы большым, ня вёскай ужо, а вялікім местам. Шмат было ў іх такіх самых дасьціпных ідэяў. Пакуль яны ўзважвалі розныя свае задумкі, настала раніца і ўзышло сонца. Яны вылянулі з вакна і ўбачылі, што — во гора! — сьнег патапталі.

Патапталі яго цяжкія боты носьбітаў стала.

Старасты Халма рвалі на сабе бароды і каяліся. Мо, прыкідвалі яны, трэ было, каб чацьвёра другіх несьлі тых чатырох, што несьлі стол з Прастаком-на-Пабягушках?

Пасьля доўгага абмеркаваньня старэйшыны вырашылі, што так і зробяць, калі на наступнае сьвята ханукі зь неба зноў упадзе скарб.

Хоць вяскоўцы і пражыліся начыста, але яны спадзяваліся на наступны год і нахвальвалі сваіх старэйшынаў, на якіх заўжды можна спадзявацца, калі трэба знайсьці выйсьце зь цяжкай сытуацыі.

**Пераклаў зь нямецкай Яўген Бяласін**

# ВІЦЕБСКАГА ЦЭНТРАЛУ

за незалежнасьць». Пэрыпэтыі вайны прывялі яго ў Горадню, куды ён уцёк з Ільвова перад пагрозай дэпартацыі. У Горадні ён уладкаваўся памочнікам сталяра пры лялечным тэатры Марыі і Юзэфа Ярэмаў. У сакавіку 1940 г. НКВД арыштавала яго за спробу нелегальнага пераходу мяжы — Герлінг хацеў патрапіць у Літву. Яго засудзілі на пяць гадоў. І адной зь першых турмаў была Віцебская. Яе ён пасьля апісаў у сваёй знакамітай кнізе «Іншы сьвет». Вось, дарэчы, вартая тэма для нашага літаратуразнаўства — беларускія старонкі жыцьця Герлінга-Грудзінскага.

Кніга «Іншы сьвет» — гэта бесстароньняе і страшнае ў сваіх дэталях апісаньне ГУЛАГу (пасьля Віцебску былі лягеры пад Волагдай і Архангельскам) за дваццаць гадоў да Салжаніцына. Герлінг пісаў яе ў Лёндане ў канцы 40-х — пачатку 50-х гадоў, пасьля таго, як прайшоў гераічны шлях разам з арміяй генэрала Андэрса, змагаўся пад Монтэ Касіна, за што атрымаў ордэн Virtuti Militari.

Выдадзены ў 1952 г. у Англіі «Іншы сьвет», нягледзячы на захопленую прадмову самога Бэртрана Расэла, не атрымаў шырокай вядомасьці на Захадзе. Заходняя інтэлігенцыя ўсё яшчэ была зачараваная «дасягненьнямі Савецкага Саюзу ў будаўніцтве самага справядлівага ў сьвеце грамадзтва», ня кажучы ўжо пра ўсеагульную ўдзячнасьць да Расеі, якая перамагла Гітлера.

Час Герлінга яшчэ не прыйшоў. Але ён ведаў тую праўду, якую адмаўлялі на Захадзе. І таму вырашыў не вяртацца ў камуністычную Польшчу. Працаваў на радыёстанцыі «Вольная Эўропа» ў Мюнхене, разам зь Ежы Гедройцем стварыў парыскі часопіс «Культура». Зь сярэдзіны 50-х пасяліўся ў Нэапалі — рашэньне было прадыктаванае, паміж іншым, яшчэ й тым, што быў жанаты з дачкою італьянскага філёзафа Бэнэдэта Крочэ.

Проза, створаная Герлінгам за пасьляваенныя дзесяцігодзьдзі надзвычай разнастайная, але, безумоўна, самае выдатнае ў ёй — гэта «Дзёньнік, пісаны ноччу», дзіўны летапіс пазнаньня сьвету і самога сябе. Дзень за днём Герлінг разважаў пра чалавечую прыроду, пра тое, куды ідзе сьвет, і, натуральна, больш за ўсё — пра Польшчу. Калі на радзіму прыйшла свабода, Герлінг ня толькі не аддаўся, як многія, замілавальна-захопленаму настрою. Ягоныя суворыя максымы былі скіраваныя супраць «перафарбаваных камуністаў» і змагароў за польскую свабоду, якіх ён абвінавачваў у змове з былымі ўладарамі Польшчы, у «Замазваньні» (Герлінг не выпадкова піша гэтае слова зь вялікай літары) таго рэальнага зла, якое ўвасабляў камуністычны рэжым. Ён дамагаўся асудзіць гэты рэжым, падобна таму, як быў асуджаны фашызм у Італіі. Герлінг ня прагнуў крыві, не заклікаў садзіць камуністаў у турмы, але яснае і цьвёрдае асуджэньне рэжыму, рэальная дэкамунізацыя грамадзтва — гэта было для яго найважнейшай справай, зарукай сапраўды дэмакратычнага разьвіцьця Польшчы.

Такая пазыцыя прывяла яго да разрыву з старым сябрам Ежы Гедройцем і, натуральна, з парыскай «Культурай», якой ён аддаў дзесяцігодзьдзі свае працы як сталы аўтар. Гедройць адмовіўся друкаваць тую частку ягонага «Дзёньніка» (Герлінг назваў яе «Дэкалёгам»), у якой востра крытыкаваліся і «Круглы стол» — як «оргія ўсеагульнай любові», і Тадэвуш Мазавецкі — як першы прэм'ер новай Польшчы, які зрабіў немагчымай «сапраўдную люстрацыю і дэкамунізацыю», і Адам Міхнік — як «вялікі сябра генэрала Ярузэльскага», і Валэнса, які палез у прэзыдэнты, ня маючы адпаведных якасьцяў, і стаў «марыянэткам» у руках лібэралаў, замазвальнікаў сапраўднай гісторыі Польшчы, якія не жадалі аддзяліць добрае ад злога.

Суворы рыгарыст і патрабавальны мудрэц у эсэістыцы, Герлінг у жыцьці быў найдабрэйшым чалавекам. Апошнія дзесяцігодзьдзе ягонага жыцьця — гэта пара ўсеагульнае пашаны. Да нэапальскага аракула зьяжджаліся журналісты і пісьменьнікі. Ягоныя інтэрвію, артыкулы і кнігі, тэлеперадачы і фільмы зь ягоным удзелам сталі штодзённай духовай ежаю палякаў. Ягоныя прыезды ў Польшчу былі вялікай культурнай падзеяй. Польскія ўнівэрсытэты наперабой імкнуліся ўручыць яму ганаровую доктарскую мантыю.

Але Герлінг застаўся верны сабе. І за два месяцы да сьмерці «ўрэзаў» «Gazecie Wyborczej» і дзьвюм мілым літаратурным дамам, якія ўзялі ў яго ім жа ўхваленае інтэрвію. Ён назваў іхны візыт у Нэапаль і гутарку зь ім «прыездам агентаў, што ўчынілі допыт».

Ці ж супакоілася цяпер ягоная спакутаваная душа? Ня ведаю... Нехта з мэмуарыстаў у гэтыя дні напісаў: Герлінг адчуваў, што сёньня інтэлігент павінен быць «супраць»...



# САБАЧЫЯ ГІСТОРЫІ

Віктар ШНІП

Адзін сабака захацеў схадзіць на вуліцу пагуляць. А яму: «Сядзі ў хаце! Там Грамдзяны з грамадзянкамі ходзяць!»

Аднаму сабаку ўсё абрыдла. І ён напіўся. Ідучы па вуліцы, сустрэў Граждана і прывітаўся. А Граждан, прыйшоўшы дахаты, сабраў сямейства і учыніў допыт: «Хто сказаў гаў?»

Аднаму сабаку хацелася выць. А Граждан ляжаў у труне мёртвы. Прайшлі піянэры — салют Граждану! Пралящелі самалёты — салют Граждану! Прагрукацелі танкі — салют Граждану! І сказаў Граждан: «Ну што, сабака, рыхтуй Маўзалей!»

Аднаму сабаку было сумна і ён плакаў. Граждан глядзеў на сабаку праз бінокаль і сьмяяўся: «А я ў тэатар не пайду...»

У аднаго сабакі было шмат кніжак. Прыйшоў да яго ў госьці Граждан і сказаў: «Разьвялося гэтых граматных, што чэснаму чалавеку жыць няма як!»

Адзін сабака адчуваў сябе непрызнаным геніем і ня мог спаць начамі. І Граждан начамі ня спаў — ганяў па кватэры камароў і крычаў: «Хто еў з маёй талеркі?»

Па аднаго сабаку прыехала чорная «Волга». А Граждан лёг у пад'ездзе на лесьвічнай пляцоўцы і прыкінуўся мёртвым.

Адзін сабака захацеў паглядзець на Эўропу. Купіў білет на цягнік і паехаў. А Граждан цэлы дзень па шпалах бег усьлед і крычаў: «Сволачы!»

Да аднаго сабакі прыяжджаў Кабзон. Граждан спачатку пакрыўдзіўся, але праз пару дзён, пабыўшы на сходзе паляўнічых і рыбаловаў, сказаў: «А я шчупака злавіў з залатымі зубамі».

Аднаго сабаку пафарбавалі, і ён стаў прыгожы, як лялька. Граждан не любіў фарбаваных. У яго сусед быў блакітны.

Адзін сабака залез на тэлевізійную вежу. Сядзіць на ёй і песьні ў эфір сьпявае. Зьбеглася народу. Думаюць-варожаць, што з сабакам рабіць. І тут Граждан выпрашыў: «Давайце будзем яму лісты пасылаць!..»

У аднаго сабакі быў Дзень нараджэньня, і ён пайшоў у рэстаран. Але сабаку ў рэстаран не пусьцілі — якраз у гэты дзень абслугоўвалі толькі Граждаиоў.

Да Шніпа прыйшоў адзін сабака і запытаўся: «Гэта ты пішаш «Сабачыя гісторыі»? — «Я». — «Ну дык зьбірайся, Картасару, Граждан цябе ўжо чытае...»

Адзін сабака пайшоў да суседа. А там ужо Граждан сядзіць на кухні і расказвае, як трэба есьці макарону.

Да аднаго сабакі ў грады ўнадзіліся куры. І што толькі сабака ні рабіў, каб іх адвадзіць ад градаў — нічога не дапамагае. Давялося выклікаць Граждана. І прыйшоў Граждан, і падушыў усе куры.

## Ал гражданоў

Адзін сабака пайшоў здаваць іспыты ў вучэльню, а Граждан з прыёмнай камісіі яму кажа: «Трус не іграет в хакей».

**В.Васілёнак, Менск**

Усё жыцьцё змагаўся сабака за свабоду, а Граждан ўвесь час казаў: «Памятай, як толькі пераможаш, я цябе падтрымаю. Мы будзем разам».

«Не хадзі нікуды, не кусай нікога, сядзі ў хаце», — заўсёды казаў Граждан сабаку.

«Я цябе кахаю», — казаў сабака дзяўчыне. «А я люблю толькі Гражданоў», — адказвала яна.

«Што ты ўмееш рабіць?» — спытаўся Граждан у сабакі. Сабака: «Усё». Граждан: «Тады можа будзеш капаць на маёй дачы зямлю?»

Аднойчы сабака слухаў музыку. «Чаму ты слухаеш расейскіх выканаўцаў?» — спытаўся Граждан. «Грашу», — адказаў сабака.

Аднойчы два Гражданы зьбіраліся ў госьці да трэцяга Граждана і вырашылі ўзяць з сабой сабаку. «Не кажы там пра гэта, пра гэта і гэта», — папярэджваў сабаку адзін Граждан. «І ня пі», — дадаваў другі.

Калі на працы адзін Граждан чытаў справаздачы ці слухаў сабаку, дык вельмі доўга рагатаў.

Увесь час на працы адзін Граждан гуляў на кампутары. А сабака сядзеў і думаў: «Калі ўжо ты пачнеш працаваць?»

**Сяргей Сеўчанка, Менск**



Сабака паслухаўся тэлевізіі і вырашыў стаць Гражданом. Сьпіць і сьніць, што ён сапраўдны Граждан. Прачнуўся і ніяк ня можа зразумець, ці то ён Граждан, які сьніць сабаку, ці то ён сабака, які сьніць Граждана.

Сабака хацеў разбагацець. Пайшоў па параду да Граждана, а той кажа: «Крадзі!» Той жа ноччу ўлез сабака ў суседзкую хату, але яго злавілі і ледзь не забілі.

Сабака наведаў пэўную інфармацыйную імпрэзу, пасьля якой за ім увязаўся нейкі Граждан. Здаровы, як бык, але злапаць сабаку ніяк ня зможа.

**Геранім Цэлюсь, Менск**







# ПАДПІШЫ СЯБРА

Шаноўныя чытачы, мы ведаем, што спаміж вас ёсьць тыя, хто хацеў бы выпісваць «Нашу Ніву», але ня мае, за што. На вялікі жаль, пры сёньняшняй эканамічнай сытуацыі наша газэта (як, зрэшты, і ўсе астатнія) выходзіць сабе ў страту, але й каштуе пры гэтым для многіх задорага. Таксама ёсьць сярод вас і такія, у каго фінансавае становішча лепшае, і хто хацеў бы падтрымаць нашае выданьне ў гэты нялёгкі час. Дык злучым жаданьні адных і магчымасьці другіх!

Усе, хто хацеў бы выпісваць «НН», але ня мае на тое сродкаў, паведамце ў рэдакцыю вашыя адрасы.

Усе, хто хацеў бы дапамагчы сваім бяднейшым братам і «Нашай Ніве» падпіскаю, паведамце пра сябе рэдакцыі.

Наш тэлефон **213-32-32.**

Няхай чытачоў у «НН» будзе болей.

Пакажам сабе ды іншым, што развагі пра нараджэньне беларускай супольнасьці — не пусты гук.

***Рэдакцыя***



**ГАЗЭТА ПРЫМАЕ ТАКСАМА АБВЕСТКІ БОЛЬШЫМ ШРЫФТАМ ЗА НЕВЯЛІКУЮ ПЛАТУ**

*-да 20 словаў (тэкставы модуль) — **93** руб.,*
*-звыш 20 словаў (тэкставы модуль) — **120** руб.,*
*-па-мастацку аформленая аб'ява — **57** руб. за 1 кв. см,*
*-па-мастацку аформленая аб'ява памерам больш за 24 кв. см з улікам кошту арыгінал-макету — ад **75** руб. за 1 кв. см*
*За аб'яву пра сямейныя падзеі — зьніжка.*

Абвесткі палітычнага характару і ад грамадзкіх арганізацыяў мусяць аплочвацца паводле рэклямных расцэнкаў для камэрцыйных аб'яваў

Каб замовіць платную прыватную абвестку, трэба пералічыць грошы праз пошту пераводам на наступны разьліковы рахунак: *Рэдакцыя газэты «Наша Ніва», р/р 3012213050010 Ленінскае аддз. ААТ «Белбізнэсбанку» г.Менску, код 763.*

На зваротным баку бланку паштовага пераводу ў сэктары «Для пісьмовых паведамленьняў» запісваецца дакладна і чытэльна тэкст абвесткі, тэлефон для сувязі і АБАВЯЗКОВА ДАДАЕЦЦА СКАЗ: «ЗА РЭКЛЯМНЫЯ ПАСЛУГІ».

*Рэдакцыя*

## прыватныя абвесткі

### вітаньні

**Найцудоўнейшай Алесьцы зь Бягомля вітаньні і мора пацалункаў!** Вясёлага лета табе! В.В.В.

**Шчырая падзяка сп. У.Арлову** за цудоўныя падарункі да нашага сьвята. Выпускнікі Беларускага Гуманітарнага ліцэю

**Спадар Міхась Маліноўскі,** віншую Вас з 55-годзьдзем! Жадаю аптымізму і творчых посьпехаў. Шалахоўскі Аляксей

**Сашу Лацэвіча віншуем з Днём народзінаў!** Здароўя, творчага настрою! Сябры-асьпіранты

**Сонечнай Волечцы з Полацку** самыя шчырыя вітаньні! Не забывайся на мяне, пішы лісты! В.В.В.

**Віншую Ганначку зь Бягомля з народзінамі,** жадаю ўсяго найлепшага. Шчасьця табе ў Незалежнай Беларусі! В.В.В.

**Прывітаньне з «арганізацыі».** Дзякуй за ўсё. Выбачай, калі што ня так. «Аднакурсьніца»

### кантакты

**Шукаю веруючую, адзінокую, стройную жанчыну** да 50 гадоў для сямейных адносінаў. Генрык Сьнігір, 231416, в.Лешчанка, Наваградзкі раён, Гарадзенская вобл.

**Андрэю Мельнікаву** – забярыце пакунак ад Віталя Супрановіча з Управы Фронту (Варвашэні 8)

Адгукнецеся, партыя зялёных у Гомелі. А/с 124, 246012, Гомель

Цікавы мянчук шукае актыўных сяброў сярод вайскоўцаў ці міліцыянтаў. А/с 78, 220141, Менск

Хлопец (19) шукае сябра. Мне патрэбныя духоўныя і інтымныя дачыненьні. Захапленьні: кнігі, вандроўкі, гісторыя, тэатар, прэса. Адкажу ўсім. 220074, Менск, а/с 208

### ідэі

Маючы вушы, слухай, маючы вочы, бач, маючы розум, разумей – мы ліцьвіны!!! Алесь

Наша сіла ў нашай мове, абаронім і захаваем яе! Кастусь Антановіч

Ёсьць Беларускія словы «часапісьменьнік», «часазанатоўшчык», проста «занатоўшчык». Навошта ўжываць франка-расейскае «журналіст»? Вітаўт

Любіць Беларусь недастаткова, за яе трэба змагацца. Кожны аўторак, сераду, чацьвер з 18.00 да 20.00. Дружына

Адродзім сьвятую справу Інквізыцыі! WOOD

**Калі варагуючыя нацыі** сьцьвярджаюць, што Бог менавіта на іх баку – гэта не крывадушша? WOOD

**Жыве Бутырчык!** Фанат

### кнігі, пэрыёдыкі

**Прадам:** У.Караткевіч. Збор твораў у 8-мі т. (Менск, 1990). Энцыкляпэдыя прыроды Беларусі ў 5-ці т. (Менск, 1986). Т. у Гомелі: 3-16-39

**Бібліятэка ці бібліяфіл, якім бракуе 3-га тому Скарынаўскай Бібліі** – прашу зьвяртацца. Станіслаў Бугар, 225653, в.Дзятлавічы, Лунінецкі р-н, Берасьцейская вобл.

**Прадам слоўнік беларуска-расейскі Янкі Станкевіча.** Станіслаў Бугар, 225653, в.Дзятлавічы, Лунінецкі р-н, Берасьцейская вобл.

**Прадам ЭД «Беларусь»**, выдавецтва «БелЭн» 1995 году. Станіслаў Бугар, 225653, в.Дзятлавічы, Лунінецкі р-н, Берасьцейская вобл.

**Бюлетэнь «Верас» № 6:** меркаваньне пра III Усебеларускі Зьезд. Ад вас капэрта. Віцебск, 210032, а/с 29-А. gazeta@veras.f2s.com

### музыка, відэа

**Шырокі выбар запісаў, значкоў, плякатаў,** каляндарыкаў, тэкстаў з акордамі беларускіх гуртоў. Шукаю распаўсюднікаў. 220085, Менск, а/с 5. Т.: (017) 249-08-88, e-mail: supranovich@dyjaryush.org.by

Дзе і за які кошт можна набыць **часопіс «Літванія»**? Паведамце адрас рэдакцыі. Т. у Віцебску: 62-91-51, Ігар

### рэстаўрацыя

Беларус, ты маеш шчасьлівую магчымасьць далучыцца да **рэстаўрацыі Беларускага Праваслаўнага Храму ў в.Сёмкаў Гарадок.** Жыве Беларусь! Т.: 270-62-39, айцец Леанід

### праца

**Шукаю працы на летні пэрыяд,** 18 гадоў. Т.: 505-46-59, Зьміцер

**Дасьведчаная швачка** шукае падпрацоўкі ў хаце (ёсьць машына, аверлёк). Т.: (216) 4-65-58

**Дапамагу пачаць свой бізнэс** у хаце (не распаўсюджваньне). Прыбытак ад 200 у.а. Нескладана! Даступна! Ад Вас кап. са зв/а + купон. А/с 122, 220089, Менск-89


«Наша Ніва» незалежная газэта, заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991. Галоўны рэдактар Сяргей Дубавец. Намесьнік галоўнага рэдактара Андрэй Дынько. Рэдактар аддзела інфармацыі Сяргей Харэўскі. Сакратар-рэфэрэнт Аляксандра Макавік. Дызайн-макет Віктар Корзун. Выдавец: рэдакцыя газэты «Наша Ніва». Заснавальнік Павал Жук.

**Адрас для допісаў: 220050, Менск, а/с 537.**
**Tel/fax: (017) 213-32-32. E-mail: niva@user.unibel.by Http://members.xoom.com/Nasa_Niva.**

© **НАША НІВА.** Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. Наклад 3295. 6 палос фарматам А2. Нумар падпісаны ў друк 3.07.2000. Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Менск, праспэкт Францішка Скарыны, 79. Замова № 3454. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4-га ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г.Менск, пр.газэты «Известия», д. 8, кв. 173.

Дыспэтчарска рэдакцыйны адрас Менск, Чырвоназорная 5/9